# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (687) 27 КРАСАВІКА 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## Пленум ГП БГКТ

**27 красавіка г.г. у памяшканні ГП БГКТ у 10 гадзін пачнецца пленарнае пасяджэнне Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прысвечанае яно будзе абмеркаванню даклада на VI з'езд БГКТ і справам арганізацыйным.**

# НАША СУПОЛЬНАЯ ПРАГРАМА

9 красавіка на пленарным пасяджэнні Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа прыняла выбарчую праграму, з якой ФАН прыступае да выбараў у сейм і рады нарадовыя, якія адбудуцца 1 чэрвеня гэтага года. З'яўляецца яна праграмай развіцця нашай айчыны накрэсленай усімі сіламі, якія ўваходзяць у склад фронту.

Праграма акрэслівае перш за ўсё асноўнае заданне, якое стаіць перад усім польскім народам. Гэта заданне забеспячэння далейшага хуткага, паспяховага, гаспадарчага развіцця краіны. Перад краінай стаяць зусім новыя патрабаванні. Мусіць яна перайсці да гаспадаркі больш інтэнсіўнай, якой пастаянны ўзрост абапірацца будзе перш за ўсё на вышэйшых якасных выніках, на сучаснай тэхналогіі, на высокай прадукцыйнасці працы, на тэхнічным прагрэсе і пастаянным прыросце кваліфікаванай кадры.

Праграма акрэслівае новыя заданні, якія стаяць перад паасобнымі галінамі нашай гаспадаркі. Асобае месца прыдзяляецца тут развіццю сельскай гаспадаркі. Прагрэс у гэтай галіне не мае прэцэдэнсу ў гісторыі краіны. Плёны збожжавых культур асягнулі 21 цэнтнер з гектара. Пад плёны ў 1968/1969 гадах вёска атрымлівае 100 кілаграмаў штучных угнаенняў на гектар, гэта значыць у два разы больш, чымсьці ў 1964/1965 гадах. Дзякуючы дапамозе дзяржавы сялянскія гаспадаркі карыстаюцца зараз звыш 70 тысячамі трактараў і тысячамі іншых машын. Зменіяравана новыя, вялікія абшары сенажацяў і зялёных угоддзяў.

У гадах, якія надыходзяць, галоўным заданнем вёскі будзе далейшая інтэнсіфікацыя сельскай гаспадаркі, павышэнне ўраджайнасці з гектара і прадуктыўнасці жывёлагадоўлі. Прамысловасць дасць сельскай гаспадарцы новыя тысячы трактараў і іншых сельскагаспадарчых машын. Механізацыя найцяжэйшых палявых работ зробіць працу гаспадара лягчэйшай і больш прадуктыўнай, а хімізацыя сельскай гаспадаркі — нашыя палі больш ураджайнымі. Узрастаючыя з году ў год пастаўкі будаўляных матэрыялаў і далейшае развіццё іх прадукцыі, дадуць гаспадарам магчымасць разбудовы гаспадарчых памяшканняў і жылых дамоў. Павышэнне прадукцыйных вынікаў кожнай сялянскай гаспадаркі да найвышэйшага ўзроўню асягнутага ў акрэсленай грамадзе — гэта практычная дарога хутчэйшага развіцця ўсяе сельскай гаспадаркі.

Ад 1965 года прамысловасць і сельская гаспадарка атрымалі 140 тысяч спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй і каля 1 мільёна — з сярэдняй адукацыяй. Далейшае развіццё школьніцтва ўсіх ўзроўняў будзе адным з асноўных заданняў наступных гадоў.

Праграма сцвярджае, што Польшча з'яўляецца неадлучным звяном супольнасці сацыялістычных краін. Умацаванне саюза дружбы і супрацоўніцтва, а перш за ўсё з Савецкім Саюзам ёсць і застанецца назаўсёды асновай польскай замежнай палітыкі.

«Грамадзяне! — чытаем у праграме Фронту адзінства народа, — Вашыя галасы, аддадзеныя на спіскі Фронту адзінства народа азначаць будуць акцэптацыю гэтай праграмы, а адначасова будуць залогам, што праграма пабудовы сілы і поспеху, праграма сацыялізма і міру — будзе ўведзена ў жыццё. Аддайце ўсе галасы на годных прадстаўнікоў польскага грамадства, на кандыдатаў Фронту адзінства народа». (п)



# ПРАМЫСЛОВЫ КРАЯВІД

У адным з клубаў Беластока беластоцкія мастакі паказваюць свае палотны. Шмат з іх тэматычна адносіцца да Беласточчыны і горада Беластока.

Чаму аднак расказваю вам пра мастацкія малюнкі, калі гутарка будзеісці аб прамысловым краявідзе Беластоцкага ваяводства?

Таму, што гэтыя малюнкі адлюстроўваюць даволі папулярныя меркаванні людзей аб нашай роднай зямельцы. Уявіце сабе, што сімвалам сучаснага Беластока на некаторых гэтых палотнішчах мае быць спалучэнне белавежскага зубра з нейкай вясковай царкоўкай.

Ці сапраўды яно так?

Частковы адказ быў змешчаны ў маім папярэднім артыкуле, калі мы супольна з птушынага палёту глядзелі на палі і сенажаці Беластоцкага ваяводства, сачылі за тым новым, што паявілася там на працягу мінулых чатырох год.

Сёння прапаную экскурсію па прамысловым краявідзе Беласточчыны. Што тут змянілася, што новага можам пабачыць?

Перш за ўсё выраслі новыя прадпрыемствы: у Сувалках — фабрыка стружкавых пліт, у Ломжы — прадпрыемства бульбянай прамысловасці і спіртны завод у Снядове пад Ломжай — прадпрыемства па прадукцыі будаўляных матэрыялаў, т.зв. «Ломбэт», у фастоўскім камбінаце — новыя прадукцыйныя цэхі, якія на добрую справу маглі б лічыцца самастойнымі прадпрыемствамі — гэта белая ткальня, цэх канчатковай апрацоўкі тканіны і фарбавальня, у Стараседьцах пад Беластокам — «Спомаш» — прадпрыемства па прадукцыі машын і абсталяванняў для спажывецкай прамысловасці, у самым Беластоку — электраабагравальная станцыя, прадпрыемства па перапрацоўцы гародніны і фруктаў і фабрыка кафлярскай палівы, у Ляўкове за Нараўкай у Гайнаўскім павеце — аграмадная цагельня, за Міхаловам у Беластоцкім павеце — прадпрыемства па дабычы торфу — «Імшар», у Дуброве Беластоцкай, у Пантніцы (Ломжынскі павет), у Філіпаве (Сувальскі павет) — новыя малачарні.

Гэтыя прадпрыемствы ўжо працуюць, даюць прадукцыю, прымаюць сыравіну ад сялян, прыносяць грошы рабочым, якія там знайшлі сабе месцы працы.

Адначасова ў прамысловым краявідзе ваяводства з'яўляюцца новыя элементы. У Беластоку, Элку і Сувалках будуюцца прадпрыемствы па прадукцыі жалезабетонных будаўляных матэрыялаў, у Ломжы — фабрыка шоўку і мэблевая фабрыка.

Так вось змяняўся і папаўняўся прамысловы краявід Беласточчыны. Тут абяцанні і прадбачванні эканамістаў, якія складалі выбарчую праграму перад папярэднімі выбарамі, былі выкананы з надбаўкай.

Беластоцкае ваяводства па развіццю прамысловасці шматзначна (амаль на 10 працэнтаў) выпярэджвала сярэдні тэмп індустрыялізацыі краіны. Гэта таксама прадбачвала папярэдняя выбарчая праграма. І так павінна быць. Проста, неабходна нам адрабіць гаспадарчую адсталасць, якая яшчэ ад часу царызму, бы цеснае ярмо, душыць нам шыю і прымушае цягнуцца ў канцы 17-ці ваяводстваў Польшчы.

Гэтае трэба ведаць, а ведаючы трэба належна ацаніць сённяшнія намаганні. Яны поўнасцю накіраваны менавіта на тое, каб як найхутчэй пераадолець гэтую адсталасць.

У 1965 годзе агульная (валавая) прадукцыя прамысловасці Беласточчыны не дасягала вартасці 10 мільярдаў злотых, тры гады пазней эканамісты налічылі ўжо 13 мільярдаў і 500 мільёнаў злотых, а разам з 1969 годам будзе амаль 15 мільярдаў злотых.

Гэты прырост абнадзейвае, дае аснову для аптымістычных спадзяванняў, што ўжо нядоўга будуць уяўляць людзі Беласток і Беласточчыну як спалучэнне зубра з царквой.

**Віктар Рудчык**
**Фота: Ю. Рыбінскі**

## НАСУСТРАЧ VI З'ЕЗДУ БГКТ

Згодна са статутам БГКТ справаздачна - выбарчыя сходы праводзяцца кожныя тры гады. «Семяноўскі гурток Беларускага таварыства ў справаздачным перыядзе вёў даволі шырокую дзейнасць і меў добрыя вынікі. Гэтым самым выдатна прычыніўся ён да гаспадарчага, грамадска-арганізацыйнага і культурнага развіцця асяроддзя і мясцовасці. За мінулыя тры гады Семяноўка дабілася многа добрых вынікаў у сельскай гаспадарцы і па-за сельскай гаспадаркай, а таксама ў рэалізацыі грамадскіх чынаў. У 1966—68 гадах пабудавана тут 2,6 км жвіраваных дарог, упарадкавана і загаспадаравана пляц пры школе і сядзібе прэзідыум ГРН, пасаджана некалькі ты-

### У СЕМЯНОЎЦЫ ДОБРА

сяч дрэвак абапал дарогі і вуліцы ў Семяноўцы. Агульная вартасць усіх гэтых прац складае суму 863 тыс. зл., у тым ліку ўдзел насельніцтва ў грамадскіх чынах сягае 499 тыс. зл. У рамах рэалізацыі грамадскіх чынаў вёска Семяноўка ўдзельнічала таксама ў конкурсах чысціні гарадоў і вёсак Беласточчыны. На падкрэсленне заслугоўвае той факт, што ў 1967 годзе ў такім конкурсе Семяноўка заняла трэцяе месца ў Гайнаўскім павеце і атрымала 20 тыс. зл. узнагароды. Грошы гэтыя ў гэтым годзе будуць выкарыстаны на ўлажэнне ходнікаў у вёсцы.

У выкананні ўсіх успомненых задач удзельнічалі члены Беларускага таварыства. А з іх некаторыя асобы беспасрэдна ініцыявалі і арганізавалі грамадскія чыны. Праўленне гуртка супольна з вясковым актывам, грамадскім камітэтам ПАРП і прэзідыумам ГРН многа разоў на сваіх пасяджэннях абмяркоўвалі задачы, якія вынікаюць з планаў грамады.

Вялікія заслугі гуртка Беларускага таварыства праяўляліся і ў арганізаванні шматлікіх мерапрыемстваў, урачыстасцей, сустрэч. Да іх належаць сустрэчы з пісьменнікамі, арганізаванне фестынаў, танцавальных вечарын, мастацкіх частак на ўрачыстыя пасяджэнні з нагоды розных дзяржаўных гадавін. Апрача гэтага было праведзена шмат сустрэч і гутарак з насельніцтвам, у якіх бралі ўдзел актывісты праўлення аддзела і Галоўнага праўлення. Гурток БГКТ прычыняецца таксама да папулярызацыі беларускіх кніжак і часопісу «Нівы», цікавіцца працай бібліятэк, чытальніцтва роднай літаратуры.

Уся дзейнасць гуртка гаворыць аб тым, што ў справаздачным перыядзе ў жыцці Семяноўкі амаль на кожным кроку адчувалася існаванне беларускай арганізацыі. Так важная роля гуртка БГКТ у жыцці вёскі сталася магчыма дзякуючы добрым актывістам гуртка, якія ўмела супрацоўнічалі з грамадскім камітэтам партыі, з прэзідыумам ГРН, з праўленнем сельскагаспадарчага гуртка».

Гэтыя словы, а дакладней вышэй прыведзеныя сказы ўзятыя з даклада, які 9 красавіка быў прачытаны сакратаром гуртка Юркам Кіслым на справаздачна-выбарчым сходзе. Сход гэты адбываўся ў школе. Адкрыў яго старшыня гуртка Мікалай Мацкевіч. У час дыскусіі выступленнямі некаторых асоб была пашырана праблематыка даклада. Прысутныя асабліва многа прысвяцілі ўвагі дарожным грамадскім чынам, апецы гуртка над клубам «Маладога селяніна», утварэнню мастацкага калектыва, пабудове кожным гаспадаром прыгожых платоў пры вуліцы. Пасля

Працяг на стар. 4

 

# З КАНФЕРЭНЦЫЙ БГКТ

## ГАЙНАЎКА

20 красавіка 1969 года, вялікая зала ПК ПАРП у Гайнаўцы.

Канферэнцыю адкрывае старшыня праўлення аддзела Аляксандр Іванюк, які вельмі цёпла вітае прысутных, а перш за ўсё прыбыўшых гасцей: **Станіслава Зялінскага** — прадстаўніка КВ ПАРП у Беластоку, **Яна Зенюка** — працаўніка НІК у Беластоку, былога актывіста Гайнаўскага аддзела БГКТ **Мікалая Самоціка** — сакратара ПК ПАРП у Гайнаўцы і намесніка старшыні ГП, **Алеся Баршчэўскага** — члена прэзідыума ГП і іншых, а затым прапануе склад прэзідыума канферэнцыі, які прысутныя прымаюць без паправак. Далейшае вядзенне канферэнцыі дэлегаты даручаюць **Васілю Сакоўскаму.**

З дакладам аб працы Гайнаўскага аддзела БГКТ выступіў таварыш Іванюк. У ім, між іншым, гаворыцца, што за справаздаўчы перыяд гайнаўскай арганізацыі БГКТ прыбыло аж 573 новыя члены і 20 новых гурткоў. У сярэднім за тры гады членскія складчыны ўплочвала 30 працэнтаў членаў, а Гайнаўскі аддзел за гэты ж перыяд ўплаціў 19.197 зл. членскіх узносаў. Станоўчую ацэнку атрымала прапагандысцкая дзейнасць аддзела. Многа месца прысвечана тыднёвіку «Ніва». Аб яго ролі сведчаць, між іншым, прыведзеныя ў дакладзе лікі: у 1966 годзе на агульны тыраж «Нівы» 6550 экз. на Гайнаўскі павет прыпадала 2701 экз., у 1967 на 7890 — 2870 экз і ў 1968 годзе — 2111 экз. «Нівы» мела Гайнаўшчына. А гэта абазначае, што каля 40 працэнтаў падпісчыкаў і чытачоў «Нівы» — гэта людзі Гайнаўскай зямлі. Шмат месца ў працы праўлення аддзела займала грамадска-палітычная праблематыка. Шырокую дзейнасць вёў аддзел у галіне арганізацыі фестынаў і вечарын з нагоды 25-годдзя ППР, 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі і Дня Савецкай Арміі. Многа месца ў дакладзе прысвяцілася таксама аматарскаму руху і іншым формам дзейнасці таварыства.

Пасля даклада разгарнулася вельмі шырокая, шчырая, гаспадарская і разумная дыскусія, акрэсленая дбайнасцю аб грамадскую справу. Забіралі голас: **В. Дзун, У. Гацута, Я. Цялушэцкі, Ю. Навіцкі, К. Грыц, М. Тэлешэўскі, Г. Тапалянская.** Ад імя гасцей выступілі: **Ст. Зялінскі, А. Баршчэўскі** і **М. Самоцік,** якія далі станоўчую ацэнку працы аддзела.

У яўным галасаванні выбрана праўленне аддзела, якое складаецца з 21 асобы, і 43 дэлегатаў на VI з'езд БГКТ. У склад новага Прэзідыума праўлення аддзела ўвайшлі: **Аляксандр Іванюк —** старшыня, **Мікалай Суліма** — намеснік, **Васіль Сакоўскі** — сакратар і **Вольга Ахрымюк, Васіль Дзун, Мікалай Самоцік, Аляксандр Шчука** — члены. У канферэнцыі прымалі ўдзел **52** дэлегаты выбраныя гурткамі.

У прынятай пастанове, апрача галоўных напрамкаў дзейнасці БГКТ на тры гады, знайшлося заданне актыўнага ўключэння БГКТ у выбарчую кампанію і рэалізацыю праграмы ФАН. (АК)

## БЕЛЬСК

У мінулую нядзелю, 20 красавіка, адбылася павятовая канферэнцыя Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Бельску. Канферэнцыю вёў **Іван Суліма,** дзеяч беларускага пачатковага школьніцтва на Бельшчыне.

Зараз на Бельшчыне існуе 48 гурткоў Таварыства, якія разам налічваюць 1655 членаў. Характэрнай рысай бельскай беларускай арганізацыі з'яўляецца тое, што ў яе радах абсалютным чынам пераважае моладзь — дарослых або старэйшых асоб надта мала.

Вось некалькі цікавейшых галасоў з дыскусіі.

Дэлегат гуртка БГКТ у Крывяцічах **Іван Кірызюк** лічыць, што пашырэнне дзейнасці будзе магчымым дзякуючы навязанню штодзённых кантактаў з іншымі арганізацыямі, дзейнічаючымі ў нашай вёсцы. Прытым выказаў ён цікавую думку, каб беларуская інтэлігенцыя зацікавілася сваімі роднымі вёскамі ў сэнсе развівання там беларускай культурнай дзейнасці. **Іван Іванюк** з Маліннікаў падкрэсліў арганізацыйную слабасць аддзела і ГП. Ахарактарызаваў дзіўную з'яву адыходу ад дзейнасці ў БГКТ дарастаючай моладзі, асабліва, пасля жаніцьбы. **Ліза Верацёнка** з Бельска ўзняла пытанне эканамічнай адсталасці ўсходніх ваколіц павета і ўказала на некаторыя магчымасці выхаду з гэтай сітуацыі, што залежнае перш за ўсё ад актыўнасці саміх жыхароў вёсак. Перш за ўсё мела яна на ўвазе пашырэнне сельскагаспадарчай асветы. **Мікалай Гайдук** з Бельска звярнуў увагу на неабходнасць актывізацыі гарадскога гуртка БГКТ, які свае вялікія мерапрыемствы мог бы праводзіць у будынку беларускага ліцэя. **Сяргей Філіпюк** з Рыбалаў паказаў, што дзейнасць беларускай арганізацыі, добрыя вынікі гэтай дзейнасці, шмат залежаць ад шчырага зацікаўлення і падтрымкі з боку партыйных улад, грамадскага камітэта партыі, партарганізацый. — Чаму ГП закінула вельмі добрую і выхаваўчую штогадовую імпрэзу пад назвай «Беларускі вучнёўскі дэкламатарскі конкурс? — запытаў дэлегат рыбалаўскай арганізацыі БГКТ. **Уладзімір Зубко** з Райска абмеркаваў велізарную ролю беларускага друкаванага слова ў шырэнні дзейнасці БГКТ, а **Арцём Чыквін** з Бельска ў сувязі з тым заўважыў, што паводле даных, сабраных ім, чытальніцтва беларускіх кніжак у вясковых бібліятэках штораз меншае і меншае! А жа ж праца з кніжкай, папулярызацыя яе, з'яўляецца найвышэйшай формай культурна-асветнай дзейнасці! **Аляксей Асіпюк** з Бельска ўзняў вельмі своечасовую і наспелую справу пашырэння навучання беларускай мове гарадскіх дзяцей. Бельск са сваёй пачатковай беларускай школай нр 3 з'яўляецца прэцэндэнтам; шкада, што нічога падобнага няма ў Гайнаўцы — спробы арганізавання ўрокаў у Беластоку закончыліся няўдачліва.

На старшыню новага праўлення выбраны **Мікалай ГАЙДУК.** (С.Я.)

## ВАРШАВА

Справаздачна-выбарчая канферэнцыя Варшаўскага аддзела БГКТ адбылася ў суботу 19 красавіка гэтага года. У канферэнцыі прыняў удзел старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Вінцук Склубоўскі. Са справаздачным дакладам выступіў сакратар Варшаўскага аддзела Віктар Швед. Дакладчык прааналізаваў ролю і месца БГКТ на шырокім фоне праблем, якімі жыве ўся краіна: барацьбы з рэвізіянізмам, 25-годдзя ўлады, на фоне вялікіх падзей у краіне і на ўсім свеце.

Гаворачы аб унутраных праблемах Варшаўскага аддзела БГКТ дакладчык звярнуў увагу на вялікія змены ў складзе яго членаў. За мінулыя тры гады скрэслена ў Варшаве з ліку членаў БГКТ каля 100 асоб. Адначасова прыбыло каля 160 новых членаў. У сувязі з тым лік членаў таварыства ў Варшаве пабольшыўся на 60 членаў і налічвае зараз 249 асоб. Цікавы састаў членаў Варшаўскага аддзела БГКТ. 160 з іх — гэта інтэлігенцыя, з чаго 85 асоб мае вышэйшую адукацыю, 50 асоб — гэта студэнты і 39 асоб — рабочыя.

Удзельнікі канферэнцыі даведаліся падрабязна аб багатай і шматбаковай дзейнасці Варшаўскага аддзела БГКТ.

Выступаючы са справаздачай рэвізійнай камісіі таварыш Янка Жамойдзін склаў, між іншым, прапанову даць публічную падзяку найбольш актыўным і адданым актывістам і працаўнікам Варшаўскага аддзела БГКТ. З'яўляюцца імі сябры: **Юрка Буслові**ч — даўнейшы... 

Большасць прысутных на канферэнцыі Варшаўскага аддзела складала моладзь, пераважна студэнты. Студэнты розных варшаўскіх вышэйшых навучальных устаноў, якія на штодзень не маюць дачынення з беларускай літаратурай, прапанавалі стварыць гурток, які даваў бы кароткія рэцытатарскія канцэрты жывой беларускай мовы. Прапанавалі яны таксама пашырэнне тэматыкі працы клуба больш сучаснымі тэмамі і формамі працы. Прапанавалі навязаць больш цесны кантакт з Беласточчынай праз выезды ў вясковыя гурткі БГКТ, а таксама праз запрашэнне цікавых мастацкіх гурткоў Беласточчыны ў Варшаву.

Спрэчкі падсумаваў старшыня Галоўнага праўлення БГКТ таварыш Вінцук Склубоўскі. Выказаў ён высокае прызнанне з боку Галоўнага праўлення БГКТ працы Варшаўскага аддзела, а перш за ўсё актыўнай паставе яго моладзі, якая ў будучыні вернецца на Беласточчыну.

Канферэнцыя выбрала новае 11-ціасабовае праўленне аддзела, рэвізійную камісію і дэлегатаў на VI з'езд БГКТ. (п)

## САКОЛКА

Даклад праўлення аддзела, які прачытаў Анатоль Севестынюк, а таксама дыскусія дэлегатаў на справаздачна-выбарчай канферэнцыі Сакольскага аддзела (адбылася 20.IV) закранулі ўсе асноўныя праблемы дзейнасці нашай арганізацыі ў гэтым павеце. Было падкрэслена, што некаторыя гурткі слаба працуюць, але большасць з іх мае шмат дасягненняў. Яны развіваюць аматарскі рух, разгортваюць культурна-асветную дзейнасць у мясцовых клубах, з'яўляюцца ініцыятарамі і арганізатарамі грамадскіх чынаў, цесна супрацоўнічаюць з іншымі арганізацыямі, а перш за ўсё з ЗМВ. Вось, напрыклад, гурток БГКТ у Новым Востраве, да якога належаць і члены ЗМВ і члены ЗСЛь, ужо многа год займаецца мастацкай самадзейнасцю.

— Мы ўжо, — гаварыў старшыня гуртка Іван Грыц, — выкарысталі ўсе п'есы на беларускай мове, якія мы атрымалі з праўлення аддзела. Далей Іван Грыц гаварыў аб грамадскіх чынах, якія гурток ініцыюе і рэалізуе.

— У сувязі са з'ездамі ПАРП і ЗСЛь, а таксама ў гонар 25-ай гадавіны народнай улады, наш гурток забавязаўся ўлажыць грамадскай працы пры рамонце дарогі на суму 10 тысяч зл.

Гурток БГКТ у Слоі, які налічвае 25 членаў, апякуецца мясцовым клубам «Рух», цікавіцца ўсімі праблемамі вёскі і карыстаецца аўтарытэтам аднавяскоўцаў.

— Мы таксама юбілейную дату нашай краіны вітаем грамадскім чынам на 30 тыс. зл., — сказаў Міхась Фідзюкевіч.

Дэлегат з Крынак, Віталіс Сідараў, расказаў прысутным аб тым, што іх гурток чвэрць стагоддзя нашай дзяржавы будзе адзначаць разам з 400-годдзем Крынак і ў сувязі з тым ангажуецца да многіх прац, у тым ліку і да грамадскіх чынаў.

На вельмі істотную справу звярнуў увагу інспектар асветы Юзэф Залескі. Гаварыў ён аб тым, што ў школах змяншаецца колькасць дзяцей, якія навучаюцца беларускай мове. Прапанаваў, каб члены БГКТ пераконвалі бацькоў аб неабходнасці вывучання роднай мовы.

Расціслаў Мадзалеўскі, прадстаўнік КП ПАРП, які з'яўляецца адначасова членам БГКТ, ад імя камітэта партыі станоўча ацаніў дзейнасць аддзела. Падсумаваў дыскусію Аляксандр Рафаловіч. Вёў канферэнцыю Віталіс Чыжэўскі.

Канферэнцыя закончылася выбарамі новага праўлення і дэлегатаў на VI з'езд БГКТ.

У склад прэзідыума новага праўлення аддзела ўвайшлі: Расціслаў Мадзалеўскі — старшыня аддзела, Сцяпан Лукашук — намеснік старшыні, Уладзімір Цілюлька — сакратар, Аляксандр Рафаловіч, Оля Паўлючук, Віталіс Чыжэўскі, Аляксандр Казлоўскі — члены прэзідыума. Старшынёю рэвізійнай камісіі выбрана Зоя Цілюлька. (МХ)




**Niedziela, 27.IV.**

8.25 Program dnia. 8.30 TV Kurs Rolniczy: ,,Metody uproszczonej uprawy roślin okopowych”. 9.05 ,,Przypominamy, radzimy”. 9.15 ,,Szczecin — Stocznia im. Warskiego” — film. 9.25 ,,Śladami filmowej przygody” — film CSRS. 10.00 Dla młodych widzów: Koncert Zespołu Choreograficznego ,,Szkolne lata” (Moskwa). 10.30 Dla dzieci: ,,Pitti i krokodyl” — film NRD. 11.00 Kronika 50-lecia Kraju Rad. 11.30 ,,W świecie sztuki” — ,,Wawel”. 12.00 Dziennik. 12.15 ,,Charlia ma już 80 lat” (,,W starym kinie”). 13.15 ,,Przemiany”. 13.45 PKF. 13.55 Teatrzyk dla Przedszkolaków: O. P. Iasi — ,,Mały dobry jeż”. 14.40 ,,Turniej Miast” Łowicz — Sieradz. 16.35 ,,Piórkiem i węglem”. 16.55 ,,Teatrzyk Joanny Kulmowej”. 17.45 ,,Wielcy znani i nieznani”. 18.25 ,,Wielka Gra”. 19.20 ,,Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Halka w Opolu” — muzyczny program dokumentalny. 20.35 ,,Jutro Meksyk” — film fab. pol. 22.15 Wiadomości sportowe oraz sprawozdania: Finał drużynowych mistrzostw Polski w boksie. Mistrzostwa Polski w gimnastyce.

**Poniedziałek, 28.IV.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec”. 17.30 ,,Telekram”. 17.40 ,,Echo Stadionu”. 18.00 ,,Stary i nowy Egipt” — film NRD. 18.15 ,,Spacerkiem po kinach”. 18.45 ,,Magazyn Postępu Technicznego”. 19.20 ,,Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: R. Brandstaetter — ,,Znaki wolności”. 21.15 ,,Wasze prawdy” — felieton literacki. 21.30 ,,Godzina Z” — program dok. 22.00 Dziennik.

**Wtorek, 29.IV.**

9.30 ,,Młodość Anny” — film fab. bułg. 10.55 Dla szkół: (kl. XI) Język polski — F. Dürrenmatt ,,Sędzia i jego kat”. 11.30 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Przyczyny i sposoby zapobiegania zachwaszczania gleb”. 13.20 Przerwa. 15.30 i 23.05 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,Przypływ i odpływ” — film belg. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.00 ,,Gawędy o współczesności”. 19.20 ,,Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Paragraf 139” — nowela film. 20.40 ,,Wieczór w Turoszowie” — (,,Profile kultury”). 21.00 ,,10 minut recenzji”. 21.15 ,,Złota róża” — koncert piosenkarzy Montreux (Eurowizja). 22.45 Dziennik.

**Środa, 30.IV.**

9.25 ,,Ich troje” — film fab. NRD. 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — ,,Szkło”. 11.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Matematyka w szkole: ,,Jednokładność i podobieństwo” cz. I. 15.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam”. 17.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — ,,Uli teoria snów” (,,Ula i świat”). 17.25 ,,Dwie fabryki” — rep. film. 17.55 TV Kurier Warszawski. 18.10 Koncert Zespołu Pieśni i Tańca Akademii Górniczo-Hutniczej w 50-lecie powstania. 18.50 ,,Zza siódmej miedzy”. 19.20 ,,Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.00 Studio 63: J. Słowacki — ,,Beniowski”. 20.55 ,,Światowid”. 21.25 PKF. 21.35 ,,Ja jestem Twoja” — śpiewa Irena Santor. 21.55 ,,Wenus z Ille” — film TVP (,,Opowieści niezwykłe”). 22.30 Dziennik.

**Czwartek, 1.V.**

7.40 Program dnia. 7.45 Sprawozdanie z Pochodu 1-Majowego w Moskwie. 9.00 Program filmowy. 9.55 Międzynarodowy Reportaż 1-Majowy (Warszawa, Ośrodki Tenerowe TV, kraje Interwizji). 13.45 ,,Sopot 68” — film TVP. 14.20 Koncert Laureatów II Festiwalu Pieśni Zaangażowanej. 15.05 ,,Romek i Anka” — film pol. 15.25 ,,My — 69” — teleturniej. 16.45 ,,Kalejdoskop” — filmowy program rozrywkowy. 17.35 ,,Wszystko co ze stali” — rep. film. 17.50 ,,Śpiewają zespoły młodzieżowe”. 18.25 Estrada Literacka: ,,Rodowód poety”. 19.20 ,,Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.15 ,,Z wizytą u Was”. Prowadzi — St. Mikulski. 21.25 ,,Zawsze w niedzielę” — film fab. pol. 22.50 Wiadomości sportowe.

**Piątek, 2.V.**

10.00 ,,Zawsze w niedzielę” — film fab. pol. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie plastyczne — ,,Architektura”. 12.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 ,,Wybieramy zawód”. 15.30 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: Kino ,,Ptyś”. 17.00 Dla dzieci: ,,Zręczne ręce”. 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 ,,Nie tylko dla pań”. 17.55 ,,Pod znakiem jakości”. 18.20 ,,Drabina” — nowela film franc. 18.45 ,,Dialogi historyczne”. 19.20 ,,Dobranoc”. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Finale” — film (,,Polacy na frontach II wojny światowej”). 20.25 ,,Pieśni z dna Piekła” — progr. muz. 21.00 Dla młodzieży: ,,My tańczymy tak” — program muzyczno-taneczny z udziałem zwycięzców leningradzkiego konkursu tańców towarzyskich (Moskwa). 22.00 ,,Rozmowy o książkach”. 22.15 Dziennik.

**Sobota, 3.V.**

10.00 ,,Dziewczęta z Placu Hiszpańskiego” — film fab. wł. 11.30 Przerwa. 15.30 Program dnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: ,,Uprawa lucerny”. 16.10 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,SP — ARP — zezwalam na start”. 17.45 ,,Warszawa, ja i Ty”. 18.15 ,,Spotkania z przyrodą”. 18.40 ,,Almanach”. 19.20 ,,Dobranoc”. 19.30 ,,Monitor”. 20.05 ,,Małżeństwo doskonałe” — film (wesele). 21.05 Dziennik i Wiadomości sportowe. 21.30 ,,Latające gwiazdy” — program rozrywkowy (Budapeszt). 22.30 ,,Dziewczęta z Placu Hiszpańskiego” — film fab. wł.




**Piątek, 25 kwietnia**

13.40 Program dnia. 13.45 ,,Ludzie na błocie”. Spektakl TV. 3 seria. 15.15 Dla uczniów. 15.40 ,,Panorama nowin”. 16.00 ,,Stadion TV”. 16.40 Filmy animowane dla dzieci. 17.10 ,,Drogami wiosny”. 17.30 Gimnastyka. Mistrzostwa ZSRR (kobiety). 19.30 ,,Sztafeta nowin”. 20.15 Program przyrodniczy. 20.55 Koncert symfoniczny. 21.45 Sprawozdanie z mistrzostw świata w szachach.

**Sobota, 26 kwietnia**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 ,,Drogą ojców-bohaterów”. 9.10 Pogadanka o sporcie. 9.30 Przegląd międzynarodowy. 10.00 Muzyka filmowa. 10.40 ,,Drogami wiosny”. 11.00 Zespół Mińskiej Fabryki Traktorów ,,Lawonicha”. 12.00 ,,Wiosna i mody”. 12.45 Gimnastyka. Puchar ZSRR w wieloboju (mężczyźni). 13.30 ,,Eureka”. 14.10 Szkatułka muzyczna”. 14.25 ,,Człowiek ziemi mojej”. 14.45 ,,Klub wiejski”. 15.45 Teatr literacki. I. Górski. ,,Wiatr wieku”. 16.45 TV barwna. 18.15 Dziennik. 18.30 ,,Świat socjalizmu”. 19.00 A. Suchowo-Kobylin. ,,Wesele Kraczyńskiego”. Spektakl Leningradzkiego Akademickiego Teatru Komedii. 21.30 ,,Tylko fakty”.

**Niedziela, 27 kwietnia**

8.00 ,,Kiosk muzyczny”. 8.30 Gra Lew Własienko. 9.05 ,,Białe i czarne”. 9.25 ,,Kronika życia muzycznego republiki. Rok. 1963”. 10.15 Dla żołnierzy. 11.00 Hokej. ,,Spartak” — ,,Dynamo”. 13.30 ,,Godzina wiejska”. 14.30 Wawel. Transmisja z Polski. 15.00 Gimnastyka. Mistrzostwa ZSRR (mężczyźni). 16.00 TV barwna. 18.30 ,,Siedem dni”. 19.15 TV barwna. 20.15 ,,Tydzień sportowy”. 20.30 Mistrzostwa świata w tenisie stołowym. Finał.



 

 

## ЛЮДЗІ БГКТ

# МІХАСЬ ІВАНЧУК



Каб добра гаспадарыць, трэба мець шмат сельскагаспадарчых ведаў. Міхась Іванчук з Малінніk (Бельскі павет) пачаткова атрымлівае гэтыя веды на курсах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў сваёй вёсцы. Потым павятовае праўленне Саюза вясковай моладзі (ЗМВ) кіруе яго на сямімесячны культурна-асветны курс у Кашалінскае ваяводства. Будучы там, ён паступае ў сельскагаспадарчы тэхнікум у Златове. Міхась жыве і працуе ў Златове аж да заканчэння тэхнікума. Адслужыўшы ў арміі, ён паступае на завочнае аддзяленне вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Познані. У 1966 годзе вярнуўся ў сваю ваколіцу і 2 гады працуе ў малачарні. Вось тады амаль штодзень быў у сваёй роднай вёсцы і ўключаўся ў грамадскую працу з моладдзю. Ён стаў і душою гуртка Беларускага таварыства, і гуртка ЗМВ. Моладзь Маліннік пад яго мастацкім кіраўніцтвам пачала рыхтаваць і выступаць у многіх вёсках з п'есамі, песнямі і скетчамі. У 1967 годзе аматарскі мастацкі калектыў выступаў 17 разоў, у мінулым годзе — 10, а ў гэтым драмгурток з п'есай Алеся Барскага «Гарадскія госці» браў удзел у павятовым аглядзе ў Бельску і ў цэнтральным аглядзе мастацкіх калектываў беларускай нацыянальнай меншасці ў Гайнаўцы. Неабходна тут адзначыць, што Міхась Іванчук сам з'яўляецца дасканалым артыстам аматарам. Зараз Міхась Іванчук з'яўляецца прадстаўніком даследчай станцыі ў Шэпетове, якая займаецца справамі павышэння сельскагаспадарчай вытворчасці. Усе навейшыя дасягненні гэтай станцыі Міхась праз сельскагаспадарчую службу прапагуе на Бельшчыне. Яму астаўся яшчэ адзін год вучобы ў вышэйшай школе і тады атрымае дыплом інжынера-агранома.

Міхась Іванчук плануе таксама ўкараняць усе навейшыя дасягненні агратэхнікі на гаспадарцы ў бацькоў. Імкнецца, каб іх гаспадарка служыла прыкладам, як дабіцца высокіх паказчыкаў у сельскагаспадарчай вытворчасці. (МХ)

## ЛЮДЗІ і ЧАС

# 100 МЕСЯЦАЎ

Хату дзядзькі Лявона Дамброўскага з Храбалоў наведаў я ў адзін з тых першых дзён вясны, якіх надвор'е напаміналa позную, мокрую і халодную восень. На панадворак страх, як кажуць, носа высунуць. Дзядзька Лявон сядзіць тады з суседам у хаце ды гутарыць аб жыцці-быцці. Радыё падае камюніке аб смерці Айзенхаўэра. Суседзі ўспамінаюць іншых вялікіх палкаводцаў ды слаўных людзей увогуле — хто колькі жыў на свеце і што зрабіў добрага і дрэннага людзям. Відаць гісторыя не чужая храбалоўскім дзядзькам, — асабліва гісторыя ваеншчыны.

— А вы служылі ў арміі? — пытаю дзядзьку Лявона.

— Служыў, служыў, яшчэ і як. 100 месяцаў праслужыў. Ад 1911 года да 1919.

Лявон Дамброўскі пачынае свой расказ — падрабязны, дакладны, з незлічонай колькасцю дэталяў, геаграфічных назваў і апісанняў падзей. Не глядзячы на 78 год жыцця, дзядзька Лявон памятае дакладна, дзень па дні, усе наступленні і адступленні, атакі і контратакі яго атрада ў час першай сусветнай вайны.

Лявон Дамброўскі па прафесіі каваль. У 1911 годзе ўзялі яго ў царскую армію. Трапіў у сапёрны атрад. Вучылі яго там рознага: будаваць масты і іх узрываць, будаваць замацаванні і ўзрываць іх порахам у паветра. Пачалася аднак вайна. Дзядзька Лявон знайшоўся на фронце.

— Каля мястэчка Камарова немцы гвалтоўна прарвалі фронт. Трэба было хутка адступаць. Сярод рускіх войск узнікла страшэнная паніка. Многа людзей загінула ад беспарадку на дарогах. Урэшце каля вёскі Снятычы трапілі мы ў акружэнне. У акружэнні прабылі тыдзень часу без вады і ежы. Адбіла нас счаслiва 28 казацкая дывізія.

— Зімою фронт стабілізаваўся за Варшаваю, дзе непадалёк былі вінакурныя заводы. Салдаты, не маючы чаго рабіць, хадзілі па віно ды водку. Вясною рускія браневікі рыхтаваліся ў атаку. Трэба было пабудаваць масты праз траншэі пад нямецкім абстрэлам. Заданне мелі выканаць добраахвотнікі. Першым выбраўся наш фетфебель, узяўшы з сабою 40 чалавек. Немцы пачалі востры абстрэл і амаль усе загінулі. «Хто цяпер пойдзе выканаць заданне?» — пытае камандзір. «Я пайду», — адказваю. Пайшоў, узяўшы з сабою толькі 4 салдат. Заданне выканаў і ніхто не загінуў.

— Адступаючы, знайшліся мы ў Беластоку. Мелі нас перакінуць у Чаромуху. Павязлі праз Гродна, Ваўкавыск і да Чаромухі. Вось якая была бесталковіца.

Лявон Дамброўскі знайшоўся на румынскім фронце. Са здзіўляючай дакладнасцю падае дзіўныя назвы румынскіх гарадоў і вёсак, ля якіх атрад яго вёў баі. Тут прабыў ён да рэвалюцыі, а ўласціва да таго часу, пакуль румыны не пачалі абезаружваць рускіх салдат. Пасля розных прыгод трапляе Лявон Дамброўскі ў Сібір, дзе аддае сваё майстэрства каваля служэнню Чырвонай Арміі працуючы ў рэвалюцыйным транспарце. Адклікаецца аднак звычайная чалавечая туга за роднымі мясцінамі, сваёй вёскай, і дзядзька Лявон рашае вярнуцца на радзіму. У Баранавічах трапіў у рукі польскіх ваенных улад.

— Я быў добра апрануты, — расказвае далей дзядзька Лявон. — Нейкі польскі вайсковы начальнік агледзеў мяне дакладна і заявіў, што пазнае мяне, быццам бы я з'яўляўся камандзірам нейкай там Чырвонаармейскай дывізіі. Затрымалі мяне ў арыштце, а самі пачалі разглядаць мае дакументы. Потым звярнулі мне дакументы з надпісам «назад у Расію». Пытаю я нейкага вартавога, ці сапраўды адашлюць мяне ў Расію. «Куды там, — адказвае той, — завядуць у лес, скажуць выкапаць на сябе яму ды і расстраляюць». Вось, думаю, якая дурная смерць. «Дайце, — кажу, — хаця перад смерцю закуру, пабачу, як гэта смакуе, бо ніколі дагэтуль не курыў». Закурыў. І вось бачыце, да сённяшняга дня не магу адвыкнуць ад гэтай гадасці!

Сказаўшы гэта, дзядзька Лявон бразнуў на стол пачку папяросаў са злосцю на нейкага там начальніка, праз якога навучыўся ён гэтай дурной прывычкі.

Расстраляць дзядзьку Лявона аднак не расстралялі. Даведаўшыся, што ён каваль, прылучылі да нейкага беларускага нацыяналістычнага атрада і казалі ладзіць вазы.

— Збрыдла мне ўжо гэта ўсё і неўзабаве я ўцёк у родныя Храбалы. Чалавека, як птушку ў гняздо, дадому цягне. Хаця сапраўдная бяда пачалася менавіта тут — дома. Не было дзе жыць, не было чаго есці. Хаця дрэва грызі. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

Апавяданне сваё дзядзька Лявон мусіць закончыць. Пара ўжо ісці паіць жывёлу. Нягледзячы на свой 78-гадовы ўзрост вядзе ён надалей з адной толькі жонкай 9-цігектаровую гаспадарку. Дзеці, вядома, як дзеці, авансавалі і працуюць на гарадскіх работах.

**Ул. Паўлючук**



## Калектыў з Пасынак

**Мастацкі калектыў з Пасынак, у праграме якога ёсць харавыя выступленні, скетчы, дэкламацыі і дзве п'есы: «Гарадскія госці» і «Мікітаў лапаць», выступіў нядаўна ў сваёй вёсцы і ўжо пачаў выступаць у суседніх вёсках. (МХ)**

Ніжэй падаем справаздачу з даклада магістра Міколы Гайдука на тэму **«Праца з падручнікам беларускай мовы ў VIII класе»,** які ён меў на канферэнцыі ў ООМ у Беластоку.

З метадычнай паліцы настаўніка

# ПРАЦА З ПАДРУЧНІКАМ ДЛЯ VIII КЛ.

У сувязі са спецыфікай прадмета беларускай мовы ў польскіх школах, вельмі істотнай і далікатнай з'яўляецца справа фарміравання патрыятызму і інтэрнацыяналізму. Настаўнік, рэалізуючы гэтае праграмнае заданне, павінен мець на ўвазе тэзіс, што беларуская нацыянальная група ў Польшчы значна адрозніваецца ад нацыянальных меншасцей у іншых краінах, напрыклад македонцаў у Югаславіі ці іншых. Беларусы, якія пражываюць на Беласточчыне, гэта аўтахтоны, людзі, якія пражываюць на гэтых землях спрадвеку г. зн. ад часоў засялення гэтых жа зямель.

Патрыёт - беларус, у гэтых умовах, павінен гэта быць чалавек, які дбае аб Польскую Народную Рэспубліку і адначасова ўносіць свае вартасці ў агульны набытак краіны. У выхаваўчым працэсе з беларускімі дзяцьмі неабходна ўводзіць пашыранае паняцце інтэрнацыяналізма. Нельга прайсці нейтральна пры пытанні славянскага свету а сацыялізма. Гэтыя патрыятычныя пытанні павінны абмяркоўвацца на настаўніцкіх раённых канферэнцыях і павінны быць выпрацаваны настаўнікамі, таму што карыстацца ўзорамі агульнымі тут не заўсёды магчыма і карысна.

Вяртаймася да падручніка. Падручнік для VIII класа стварае магчымасці для рэалізацыі вышэй закранутых пытанняў. Ідэальна служаць гэтаму творы Я. Коласа «Крыніца», «Асінае гняздо» і «Тры браты». Інтэрнацыянальныя вартасці польскага і беларускага народаў дасканала адлюстроўвае таксама польская паэзія і проза такіх аўтараў як Ю. Тувім, Ул. Бранеўскі і Л. Кручкоўскі, якая перакладзена на беларускую мову знайшлася ў падручніку. Вельмі істотнымі творамі для рэалізацыі ўспомненых пытанняў з'яўляюцца творы М. Шулецкай аб Райску, а таксама прамова Ул. Гамулкі ў Мінску выказаная ў 1958 годзе. У падручніку ёсць шмат твораў, якія спрыяюць фарміраванню адказнасці за лёсы дзяржавы польскіх грамадзян беларускай нацыянальнасці.

Іншай справай з'яўляецца праблема ўшанавання традыцыі роднай вёскі, ваколіцы, рэгіёну. Гэтаму пытанню падручнік прысвячае нямнога месца нягледзячы на паказаную ў падручніку традыцыю ўбораў. Найважнейшая роля тут прыпадае настаўніку. Настаўнік беларускай мовы павінен выкарыстаць для гэтага мясцовы фальклор. Гэта можа і павінен рабіць кожны настаўнік. У гэтым пытанні не разыходзіцца пра навуковасць, а пра сутыкненне вучня з народнай творчасцю. Тыя настаўнікі, якія збіраюць мясцовы фальклор, павінны пазбыцца чытання найцікавейшых запісаных твораў. Разыходзіцца пра тое, каб чытаць не толькі найцікавейшыя творы, але ацэньваць іх усе па элементах народнасці, а не цікаўнасці зместу. У кожным з фальклорных твораў павінна разыходзіцца пра народнасць, пра рысы характэрныя данаму рэгіёну. Вельмі цікавую працу з вучнямі, на ўспомненую тэму, правяла настаўніца **Вольга Гурэстовіч** з пачатковай школы ў Дубінах Гайнаўскага павета. Збіраннем мясцовай народнай творчасці зацікавіла яна гарцэрскую дружыну, а гэтым самым перанесла праграмную тэматыку на пазалекцыйныя заняткі.

Патрыятызм пачынаецца ад любві да родных мясцін. Гэтай тэме падручнік не мог даць гатовых матэрыялаў, але гэта не абазначае, што ў падручніку нічога няма звязанага з гэтай праблемай. Аўтары заключылі гэтае пытанне ў шматлікіх падтэкставых пытаннях і заданнях, на якія настаўніку трэба звяртаць асаблівую ўвагу.

Калі разыходзіцца аб суадносіны беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы з БССР, дык падручнік для VIII класа дае вельмі многа матэрыялу, і спецыяльных цяжкасцей настаўнік не павінен мець.

Для рэалізацыі закранутых вышэй пытанняў неабходны адпаведны метад працы настаўніка. Найлепшым метадам навучання беларускай мовы, а перш за ўсё вышэй указаных нялёгкіх тэм, павінен быць **метад праблемнага навучання.**

На навучанне беларускай мовы найбольш трэба ставіць у пачатковых школах. Гэты тэзіс апраўдвае і той факт, што тут асноўны лік вучняў пачынае і заканчвае вывучэнне роднай мовы. Беларускія ліцэі маюць маленькую жменьку гэтай моладзі. АК

Забавязаліся — выканалі

# У ГАЦЬКАХ

Вёска Гацькі, што ў Бельскім павеце, ляжыць непадалёк шашы Беласток—Бельск. Але вясною або восенню не толькі немагчыма было дастацца да вёскі самаходам ці матацыклам, але цяжка дайсці і пехатою. Застрагалі ў балоце самаходы і людзі.

Справа рамонту 500 м дарогі вёска Гацькі — шаша сталася прадметам абавязацельства жыхароў вёскі і адкормачнага пункта мяснога прадпрыемства ў Гацьках, якога самаходы застрагалі ў балоце. Каля 30 гаспадароў узятае на сябе абавязацельства выканалі. Кошт рамонту дарогі ацэньваецца на 30 тысяч зл.

# У КНАРАЗАХ

Кнаразы — адна з найактыўнейшых вёсак у ГРН Храбалы. Забавязаліся яны чынам выраўняць і пазавозіць пяском ямы, якія патварыліся на вуліцы. На чын выехала каля 40 фур. Чын быў выкананы, а яго вартасць ацэньваецца на 7 тысяч зл.

Асабліва актыўны ўдзел у чыне прынялі Васіль Барысюк, I сакратар ГК ПАРП, і Ян Кавальчук — радны грамадскай рады нарадовай.

Жыхары Кнаразоў выступілі з ініцыятывай пабудовы рамізы грамадскім чынам. Асаблівую актыўнасць тут выказваюць мясцовыя пажарнікі. Пакуль што справа разглядаецца павятовымі ўладамі. Трэба мець надзею, што жыхары Кнаразоў незадоўга змогуць пахваліцца чарговай актыўнасцю ў выкананні прыгожага чыну. (ак)



 

Пачатак на стар. 1




дыскусіі ўдзельнікі схода, а было іх 29 асоб, прыступілі да арганізацыйных спраў гуртка. Па прапанове праўлення было скрэслена са спісу гуртка 7 асоб. Некаторыя з іх выехалі з вёскі ў іншае месца пражывання, а некаторыя зноў не аплачвалі складчын і не праяўлялі ніякай актыўнасці.

Члены БГКТ аднагалосна ў рады Беларускага таварыства прынялі 11 новых членаў, у тым ліку і кіраўніка мясцовай школы Уладзіміра Кічко. Ітак, зараз гурток БГКТ у Семяноўцы налічвае 35 членаў. Па прапанове сакратара грамадскага камітэта ПАРП Рыгора Аніскевіча, актывіста гуртка Івана Аніскевіча і працаўніка ГРН Івана Шыманюка старшынёй і сакратаром выбраны ізноў Мікалай Мацкевіч і Юрка Кіслы. Скарбнікам прысутныя выбралі настаўніцу Ніну Пташынскую. Трохасабовае праўленне гуртка паедзе на павятовую канферэнцыю аддзела.

Сход закончыўся прыняццём пастановы адносна далейшай працы гуртка ў гэтым годзе. У сувязі з тым, што пункты пастановы даволі цікавыя, таму ніжэй некалькі з іх друкуем:

а) уключыцца ў выбарчую кампанію ў сейм і рады нарадовыя аказваючы ўсебаковую дапамогу ў арганізаванні спатканняў кандыдатаў з выбаршчыкамі, а таксама ўсебаковую дапамогу ў часе выбараў;

б) актыўна ўдзельнічаць у арганізаванні ўрачыстасцей з нагоды 25 гадавіны народнай улады;

в) кожны член БГКТ возьме ўдзел у грамадскім чыне пры ўкладванні ў вёсцы ходнікаў і пры праставанні дарогі ў кірунку Альхоўкі. Апрача таго члены БГКТ забавязваюцца ўдзельнічаць у рэалізацыі грамадскага чыну прадбачанага конкурсам на найчысцейшую і найбольш гаспадарную вёску — сядзібу ГРН;

г) гурток БГКТ забавязваецца ўключыцца да працы пры рамонце святліцы;

д) у ліпені дэлегацыя гуртка БГКТ супольна з гарцэрскай дружынай наведае месцы расстрэлаў немцамі жыхароў Лукі і Тарнопаля, а таксама партызанскую магілу ў пушчы, упарадкуе іх і зложыць кветкі;

е) гурток БГКТ арганізуе над ракой Нарвай сустрэчу з моладдзю з суседніх вёсак;

ж) гурток БГКТ возьме пад апеку клуб «Маладога селяніна» і створыць там умовы да арганізавання адпачынку, а таксама будзе весці культурнаасветную дзейнасць;

з) гурток БГКТ будзе запрашаць на сцэну сваёй святліцы мастацкія калектывы з іншых мясцовасцей;

к) гурток БГКТ прычыніцца да таго, каб часопіс «Ніва» меў яшчэ больш падпісчыкаў, а бібліятэкі мелі больш чытачоў роднай літаратуры. З гэтай мэтай гурток зацікавіцца працай усіх 5-ці бібліятэчных пунктаў падлеглых грамадскай бібліятэцы і праверыць, як забяспечваюцца яны беларускай літаратурай;

л) гурток сабярэ не менш 10-ці экспанатаў у музей БГКТ у Белавежы;

м) гурток будзе намагацца, каб у радах БГКТ знайшліся самыя актыўныя так маладыя, як і старэйшыя людзі вёскі.

Члены Беларускага таварыства ў Семяноўцы свядомыя сваіх заданняў, пачуваюцца да адказнасці за працу і лёсы гуртка. Гурток БГКТ мае аўтарытэт у вёсцы. Да яго належыць і моладзь і старэйшае пакаленне. Дзейнасць гуртка ў Семяноўцы можа быць прыкладам для нашых гурткоў ва ўсіх 6-ці паветах, дзе існуе Беларускае насельніцтва. Семяноўскі гурток дабіўся таго, каб з яго працаю лічыліся КГ ПАРП, прэзідыум і іншыя ўстановы і арганізацыі.

**Міхась Хмялеўскі**

# КАЛІ ХТО ЖЭНІЦЦА

На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства пад канец мінулага года жыло 1 мільён 186 тысяч чалавек. На 100 мужчын прыпадае 104 жанчыны. Аднак хай заўчасна не цешацца нашы кавалеры, бо аказваецца, што ва ўзросце да 30 год жыцця мужчыны маюць даволі значную колькасную перавагу над жанчынамі. Няма тады асноў, каб капрызнічаць у пошуках жонкі.

Перавага жанчын пачынаецца ад 30 год жыцця. Проста таму, што іх менш памірае ў старэйшым узросце, як мужчын.

На працягу апошніх дваццаці год пажанілася на Беласточчыне звыш 190 тысяч пар. Вынікае з гэтага, што амаль адна сям'я на тры была заснавана пасля вайны (у 1948—1968 гадах). Маем тады ў ваяводстве ва ўзросце вышэй за 15 год аж 70 працэнтаў жанатых мужчын і толькі 62 працэнты замужніх жанчын. Гэтая розніца даказвала б, што даволі многа жанчын не выходзіць зусім замуж і на ўсё жыццё захоўвае сабе поўную свабоду. На жаль, няма доследаў, якія выяўлялі б прычыны аставання дзяўчат з Беласточчыны ў дзявочым стане. Можна толькі дадумоўвацца, што найчасцей астаюцца яны пасмяротнымі паненкамі не па ўласнаму жаданню. Такое меркаванне знаходзіць падтрымку ў іншых, статыстычна ўстаноўленых і праўдзівых, ліках. Вось яны для 1968 года: калі ва ўзросце 25—29 год узяло шлюб 3 тысячы мужчын, то жанчын у тым узросце, прыступаючых да шлюбу, было ледзь 1100. Статыстычныя доследы паказваюць, што шанцы на выхад замуж гвалтоўна малеюць для жанчын пасля 24-га года жыцця, а пасля 29-га года жыцця (статыстычна) раўняюцца амаль нулю. Найбольш паненак выходзіць замуж між 20-тым а 24 годам жыцця. У 1968 годзе было іх амаль 4300, а мужчын у гэтым узросце — на 500 менш, хаця таксама найбольш кавалераў рашаецца на жаніцьбу менавіта ў гэтым узросце. Можа мелі б ахвоту жаніцца на кімнебудзь яшчэ раней. Аднак не дазваляе закон, які для паненак устанаўляе мінімум пачаты 19 год жыцця, а для кавалераў — пачаты 22-гі год жыцця. Хіба на шлюб дазволіць суд. Таму менавіта ў мінулым годзе ва ўзросце 19 год прыступіла да шлюбу аж 2600 паненак, а толькі 200 кавалераў. Найчасцей прычынай, на аснове якой суд выдае дазвол на жаніцьбу, бывае дашлюбнае дзіцё.

Пачалася вясна, якую паэты праславілі, як час кахання. Статыстыка аднак выразна пярэчыць паэтам. У Беластоцкім ваяводстве найменш шлюбаў здараецца менавіта ў маі. Затым таксама не вельмі шчаслівымі месяцамі з'яўляюцца студзень і сакавік. Найчасцей маладыя пары прыступаюць да шлюбаў у лютым, красавіку і снежні.

Дзе больш і часцей жэняцца: у вёсках ці ў гарадах?

За мінулыя 20 год у вёсках Беластоцкага ваяводства пажанілася звыш 130 тысяч пар, а ў гарадах — ледзь няцэлых 60 тысяч. Значыць, у вёсках за той час завязалася амаль у два разы больш новых сем'яў.

Аднак гэтыя лікі не адлюстроўваюць яшчэ рэчаіснага стану. Проста ў вёсках Беласточчыны жыве шмат больш людзей. Калі дакладней прыгледзіцца, аказваецца, што вясельную гарэлку маладыя пары часцей салодзяць у гарадах ваяводства, а рэкорд увесь час трымае тут сам горад Беласток. Сярод кожнай тысячы сялян і «мястовых» у 1948 годзе ў горадзе пажанілася звыш 12 пар, а ў вёсках — ледзь 8. У наступных гадах згуляла вяселле ўжо крыху менш маладых. Найбольш неспрыяльным для шлюбаў аказаўся 1965 год. На 1000 жыхароў рашылася тады на жаніцьбу ледзь 6 пар. У мінулым годзе толькі ў адным Беластоку сярод кожнай тысячы пастаянных жыхароў горада згуляла вяселле 10 пар. Перадавымі па колькасці шлюбаў з'яўляюцца паветы: (па чарзе месц) Кольна, Моньскі, Сямяцічы, Алецка і Элк. У краіне найчасцей жэняцца ў горадзе Вроцлаў і ў Шчэцінскім ваяводстве.

Пагаворка сцвярджае: «Каханне ходзіць з завязанымі вачыма». Тут статыстыка зусім згодна з народным вопытам. Сапраўды вельмі часта здараецца, што пары, якія прыступаюць да шлюбу, шматзначна розняцца гадамі, неаднойчы розніца гэтая дасягае 20-ці год. І то не толькі на карысць мужчыны. Бывае і наадварот — шмат старэйшая жанчына знаходзіць сабе маладога мужа. Вялікая розніца ў гадах маладажонаў часцей здараецца ў вёсках, як у гарадах.

Жэняцца і выходзяць замуж не толькі маладыя людзі. 182 мужчыны і 64 жанчыны прыступілі да шлюбу маючы 60 і больш гадоў жыцця. На працягу 10 апошніх гадоў наглядалася пастаянны прырост новых сем'яў, сярод якіх муж і жонка разmянялі ўжо 5 дзесятак жыцця.

Такі вось вобраз прыступаючых да жаніцьбы дае ў Беластоцкім ваяводстве статыстыка. Варта гэта ведаць напрадвесні новага сезона ў каханні.

(вр)




## ГІСТОРЫЯ

**Powieść minionych lat.** Tłum. z ros. i komentarz F. Sielicki. Red. naukowi: M. Jakóbiec, W. Jakubowski. Wrocław, 1968, Oss, zł. 85.00 (Kom. Słowianoznawstwa PAN).

Паведамляем аб гэтай кніжцы нашых чытачоў, бо гэтая хроніка дае цікавы вобраз нашага далёкага мінулага. Перакладзена была на розныя мовы, але арыгінальная мова хронікі, так званая стараруская, гэта мова, з якой уфармаваліся ўсходнеславянскія мовы, між іншым беларуская. Хроніка дае гісторыю Кіеўскай Русі ад часоў легендарных да XII ст. уключна.

**Joachim Wieder: Krach nad Wołgą.** Tłum. z niem. i oprac. przypisy: S. Jellenta, A. Rzepniewski. Warszawa 1968, MON, zł 24.00.

Гэта не першая кніжка аб акружэнні гітлераўскіх войск пад Сталінградам у 1942 годзе і напісана былым гітлераўскім афіцэрам, які знайшоўся ў слаўным рускім катле. Усе кніжкі на гэтую тэму выклікаюць вялікае зацікаўленне і асабліва цікавы яны тады, калі пішуцца людзьмі, якія трапілі ў акружэнне. Аўтар успомненай кніжкі быў афіцэрам вайсковай разведкі акружанай арміі Паўлюса. Выбраўся разам з іншымі «панамі свету» ў СССР па «жыццёвыя прасторы». Знайшоў іх пад Сталінградам...

**Seweryn Ajzner, Zbigniew Szczygielski. Dokumenty Komunistycznej Partii Polski.** 1935—1938, W-wa 1968, KiW, zł 48.00 (Zakład Historii Partii przy KC PZPR).

Гэта першае выданне найбольш поўнае і найважнейшых дакументаў Камуністычнай партыі Польшчы з 1935—1939 гадоў. Праз апублікаванне гэтыя дакументы сталіся даступнымі кожнаму, хто глыбей цікавіцца гісторыяй і лёсам КПП. Асабліва цікавымі з'яўляюцца дакументы з апошніх гадоў існавання партыі ў 1936—38 гадах.

**Kazimierz Banach. Z dziejów batalionów chłopskich.** Wspomnienia, rozważania, materiały. Warszawa 1968, LSW, zł 50.

Праца дае ўласныя ўспаміны аўтара з гадоў акупацыі, калі ён дзейнічаў у Батальёнах Хлопскіх. Казімір Банах быў адным з арганізатараў БХ. Як трэба ацаняць уклад Батальёнаў Хлопскіх у барацьбу з акупантам, збройную і ідэалагічную? Кніжка напісана зачавідцам паможа разабрацца, тым больш, што аўтар далёкі ад ідэалізацыі Батальёнаў Хлопскіх і ўсяго сялянскага руху ў той час.

## ПЕДАГОГІКА

**Tadeusz Wójcik. 20 lat Polski Ludowej we wspomnieniach nauczycieli.** Wyboru dokonał... Warszawa 1968, NK, zł 37.00.

Праца складаецца з 17-ці пазіцый выбраных сярод 247 прысланых і 42 узнагароджаных. Успаміны настаўнікаў шчырыя, з розных школ і раёнаў краіны, з першых гадоў народнай улады і пасля 20-ці год яе гісторыі.

## БІЯЛОГІЯ

**Życie i człowiek t. VII Człowiek.** 3 Leczenie. Red. nauk. R. Kourilsky i C. Jacquillat. Tłum. z franc. T. Różniatowski. Warszawa 1963, PWN, zł 200.

Ад 1965 года Дзяржаўнае навуковае выдавецтва (PWN) выдае паасобныя тамы тлумачанай з французскай мовы серыі «Жыццё і чалавек». Паасобныя тамы называліся: Падставы жыцця, Бактэрыі, Расліна, Звер, Чалавек. Апошні том, які выйдзе яшчэ, будзе звацца «Чалавек будучыні». (вл)




III

1 чэрвеня — выбары. У сейм выбярэм 460 паслоў. Гэты лік прадстаўнікоў народа ў вярхоўны орган дзяржаўнай улады Польшчы заўсёды сталы і ён не залежыць ад колькасці выбаршчыкаў. Такая традыцыя.

А як выбіраюцца паслы ў сейм? Уся краіна дзеліцца на так званыя шматмандатныя акругі, з тым, каб абяспечыць шырокае прадстаўніцтва ў парламенце пасланцаў розных палітычных партый, якія ствараюць Фронт адзінства народа. На выбарах 1957 года ў краіне было 116 выбарчых акруг і на кожную з іх у сярэднім выпадала чатыры пасольскія мандаты. У 1961 годзе вырашана было стварыць усяго 80 акруг — у сярэднім па пяць — сем мандатаў на акругу. На такую колькасць акруг падзелена краіна і ў сёлеташніх выбарах у сейм. Паслоў выбіраем шляхам усеагульнага роўнага непасрэднага і тайнага галасавання. Кандыдаты ў члены сейма вылучаюцца масавымі арганізацыямі працоўных, а таксама камітэтамі Фронту адзінства народа.

Якія правы мае наш сейм? Згодна з артыкулам 15-ым канстытуцыі, сейм выдае законы і ажыццяўляе кантроль над дзейнасцю іншых органаў дзяржаўнай улады і кіравання. Ёсць у нас, як вядома, дзяржаўны савет і яго старшыня, які мае правы прэзідэнта. Ці залежыць гэты орган ад сейма? На сваім першым пасяджэнні сейм выбірае дзяржаўны савет, які поўнасцю падначалены сейму. У яго заданне ўваходзіц назначанне тэрмінаў выбараў у сейм і скліканне чарговых сесій сейма. Ён дае абавязуючае тлумачэнне законаў, выдае дэкрэты, якія маюць моц закона, назначае і адклікае паўнамоцных прадстаўнікоў ПНР у іншых краінах, ратыфіцыруе і дэнасіруе міжнародныя дагаворы, узнагароджвае ардэнамі і медалямі, ажыццяўляе шэраг іншых функцый, прадугледжаных канстытуцыяй.

Варта пры гэтым адзначыць, што наш сейм мае свой кантрольны орган —



Сеймавая зала. Тут, на першай сесіі, новавыбраныя паслы зложаць урачыстую прысягу.




Пасля «Крыжаносцаў» другая аповесць Генрыка Сянкевіча трапіла на шырокія панарамічныя экраны польскага кіно. «Пан Валадыёўскі» з'яўляецца трэцяй часткай трылогіі — абшырнай аповесці, якую Генрык Сянкевіч пісаў «дзеля падмацавання сэрц суайчыннікаў», зняволеных суседнімі дзяржавамі, якія падзялілі між сабой тэрыторыю шляхецкай Рэчыпаспалітай. Хацеў ён прыблізіць сучасным яму палякам той час і тых людзей, калі яны свядома рашаліся на смерць, каб гэтым чынам загарадзіць дарогу да айчыны яе ворагам.

Такім чалавекам быў менавіта палкоўнік каралеўскага войска, «малы рыцар», пан Валадыёўскі. Яго адвага, ваенныя ўмеласці, яго сэрца, непадкупнасць і глыбокі патрыятызм вядомы ўсім грамадзянам Польшчы з абавязковай школьнай лектуры.

Менавіта ідэя патрыятызму, якую праяўлялі абаронцы радзімы, была тым стымулам, якім кіраваўся рэжысёр Ежы Гофман, прыступаючы да экранізацыі гэтага шэдэўра польскай літаратуры.

Аповесць Сянкевіча, а затым і фільм Ежы Гофмана пераносяць нас у другую палову XVII ст. Польшча з'яўлялася тады залатой цацкай у руках некалькіх дзесяткаў магнатаў-феадалаў, якія змагаючыся за ўладу, стараліся адарваць кожны для сябе як найбольш значны кусок з гэтай залатой цацкі.

Пад націскам магнатаў у 1668 годзе адмовіўся ад трону кароль Польшчы Ян Казімір, які ў час шведскага нашэсця абяцаў сялянам палегчыць іх нявольніцкую долю. У наступным годзе магнаты ўвялі на трон князя Міхаіла Карыбута Вісняевецкага, сына феадала з усходніх крэсаў Польшчы, які праславіўся крывавымі змаганнямі з украінскімі паўстанцамі. Новы кароль аказаўся няўдалым палітыкам і звычайнай лялькай у руках сваіх станавіцеляў.

Польшча тады лічылася мурам хрысціянізму. Таму яе адносіны да мусульманскага свету былі вельмі варожыя. Турэцкі ханат адплочваў ёй такой жа самай варожасцю. Войны з татарамі то прыціхалі, то зноў успыхвалі.

Аб тым варта ведаць выбіраючыся на фільм «Пан Валадыёўскі». Тады лепш зразумеем трагічнае становішча галоўнага героя. Таленавіты акцёр Тадэуш Ламніцкі па-мастацку патрапіў паказаць гледачам гэтую трагедыю «малога рыцара». Нават яго самагубніцкая смерць пад грузамі Каменецкай крэпасці здаецца нікому непатрэбнай, калі ўсе тыя, што кіравалі дзяржавай, думаюць толькі і выключна пра свае ўласныя прыватныя справы.

Дарэчы, не толькі Т. Ламніцкі адзначаецца высокім ўзроўнем акцёрскага майстэрства. Не ўступаюць яму ўсе іншыя акцёры. Менавіта дзякуючы іх дасканаламу майстэрству атрымалі мы фільм высокай мастацкай вартасці.

Пасля «Лялькі», «Фараона» і «Грабіны Козэль» гэта чарговы фільм, які сягае да шэдэўраў класічнай польскай літаратуры. Гэтыя фільмы трэба лічыць, як вялікае дасягненне польскай пасляваеннай кінематаграфіі. В.Р.

**P. S. Фільм «Пан Валадыёўскі» дэманструецца зараз у Беластоцкім кіно «Покуй». У маі пабачаць яго жыхары Элку, Ломжы і Алецка, а пасля трапіць ён у Бельск, Гайнаўку, Сямяцічы і Саколку. Апрацоўваецца таксама тэлевізійная версія гэтага фільма.**



**Пан Валадыёўскі (Тадэуш Ламніцкі).**

гэта падначалена яму верхняя кантрольная палата. Яна створана для кантролі за гаспадарчай, фінансавай і арганізацыйна-адміністрацыйнай дзейнасцю цэнтральных і мясцовых органаў дзяржаўнай адміністрацыі і падначаленых ім прадпрыемстваў і ўстаноў. Нагляд за палатай вядзе Дзяржаўны савет, а разам яны падначалены сейму. Зразумела, што сейм паклікае і адклікае ўрад ПНР — савет міністраў і паасобных яго членаў.

Яшчэ адна надзвычай важная роля сейма. Ён зацвярджае гадавыя і шматгадавыя нацыянальныя гаспадарчыя планы, а таксама гадавыя бюджэты, якія вызначаюць асноўны напрамак развіцця нашай краіны.

Цэнтральнай постаццю ў нашым сейме з'яўляецца пасол. Палітычная і грамадска-прафесіянальная прыналежнасць 460 паслоў з'яўляецца гарантыяй, што сейм сапраўды выказвае інтарэсы найшырэйшых мас грамадзян нашай краіны. Нашы паслы маюць традыцыйнае права імунітэта і недатыкальнасці. Гэта значыць, што нельга іх судзіць ці арыштаваць без згоды сейма. У сейме паслы арганізуюцца ў пасольскія клубы, праз якія палітычныя партыі абяспечваюць ажыццяўленне лініі партыі ў сейме.

Цяжка расказаць аб усёй шматграннай дзейнасці найвышэйшага дзяржаўнага органа краіны. Толькі аб пастаянных камісіях сейма можна гаварыць бясконца. Іх цяпер дзевятнаццаць. І нават назвы камісій вымоўна гавораць, які шырокі круг пасольскіх клопатаў. Яны ў агульнадзяржаўным маштабе вызначаюць палітыку ва ўнутраных і знешніх справах краіны, у будаўніцтве і знешнім гандлі, у мастацтве і асвеце, у цяжкай, хімічнай і горнай прамысловасці, ахове здароўя і фізічнай культуры. Пасланцы народа, надзеленыя найвышэйшай уладай, стаяць на сваіх пастах амаль на ўсіх участках народнай гаспадаркі.

**Хведар Асініч**

## ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Н І В У“

# ПЗУ вядомае і невядомае

Гаворачы аб страхоўцы заўсёды ўяўляем сабе пагрозу нейкага нешчаслівага выпадку. Ва ўмовах вёскі вяжацца гэта з пажарамі. Але не толькі. За адзін мінулы 1968 год у нашым ваяводстве мела месца больш семдзесяці тысяч нешчаслівых выпадкаў і шкодаў, у выніку якіх застрахаваныя атрымалі ад ПЗУ грашовай кампенсаты на суму каля 237 мільёнаў злотых.

Неяк павялося, што дзейнасць ПЗУ разглядаецца людзьмі ў катэгорыях паняццяў страхоўкі ад няшчасных выпадкаў і шкодаў. Гэта вынік традыцыі. Тым часам дзейнасць ПЗУ адбываецца не толькі ў сэнсе страхоўкі ад няшчасцяў, але таксама і ў сэнсе прадухілення няшчасцяў. Гэта апошняе сцвярджэнне моцна датычыць вёскі, яе лёсу. Апошнім часам ПЗУ фінансавала 36 калектываў адбудовы вёскі, якія арганізоўваліся сярод пагарэльцаў, ахвяр масавых пажараў. Прытым кожны гаспадар, які мае хату з саламянаю страхою, можа атрымаць ад ПЗУ пазыку на новы чарапічны ці этэрнітавы дах. Пазыку беспрацэнтавую і на дзесяць гадоў сплаты, першыя два гады можна ўстрымацца ад сплаты з прычыны, скажам, цяжкага матэрыяльнага становішча. Асабліва бедным гаспадарам прызнаецца грашовыя дапамогі. Аб усіх такіх магчымасцях, аказалася, нашы гаспадары не ведаюць. За мінулы год ПЗУ прызнала больш дзвюх тысяч пазык і падмог гаспадарам у розных паветах на суму каля дваццаці пяці мільёнаў злотых. А за пяць год, пачынаючы ад 1963 года, ПЗУ выдаткавала на пазыкі дзеля замены саламяных дахаў чарапічнымі або этэрнітавымі звыш сто трынаццаць мільёнаў злотых. Сцверджана, што яшчэ палова хат на Беласточчыне мае саламяныя стрэхі, пераважна, у такіх паветах, як — Сакольскі, Дуброўскі, Беластоцкі, Аўгустоўскі, Сямяціцкі, Бельскі, Гайнаўскі.

Ведаем, што шмат пажараў бывае з прычыны недагляду малых дзяцей, у час жніва найчасцей. У сувязі з тым, каб пазбегчы «вогненнай» небяспекі, вынікаючай з неразумных дзіцячых гульняў, ПЗУ аплачвае дзяцінцы, спецыяльна арганізоўваемыя ў час жніва. Вядома, дзяцінцы арганізуюць мясцовыя актывісты, ПЗУ можа толькі пакрываць большыя ці меншыя кошты іх утрымання. З гэтакай добразычлівасці ПЗУ ў мінулае жніво скарыстала 183 мясцовасці на Беласточчыне. Можна спытаць, чаму так мала? На жаль, не ўсе арыентуюцца, што існуе такі добры дзядзька... Калі думаем аб пажарах, насоўваецца справа будовы пажарніцкіх басейнаў, на якія, аказваецца, ПЗУ таксама не шкадуе грошай. За адзін толькі год пабудавана трыццаць пажарніцкіх басейнаў на поўны кошт багатай страхавальнай фірмы, якой з'яўляецца ПЗУ. Даплачана значныя сумы на заканчэнне будовы 27 пажарніцкіх раміз. Ляпей за тое, каб не было пажараў, чым за пажары!

ПЗУ пакрывае кошты будовы громаадводаў і трэба толькі дзівавацца з некаторых гаспадароў, якія не хочуць скарыстаць з гэтакай дабрадзейнасці. Або, атрымаўшы громаадводную інсталяцыю зусім не дбаюць аб яе, горш таго, псуюць гэту інсталяцыю, разбіраюць яе на нейкія свае гаспадарскія патрэбы. Кажуць: як пярун мае ўдарыць, то нічога не паможа! Безнадзейная мудрасць не даводзіць да дабра.

Вельмі частай з'явай трэба лічыць прапажу быдла і авечак. Прычыны розныя, часамі сапраўды нешчаслівыя здарэнні, пераважна, аднак бывае гэта ў выніку дрэннага догляду жывёліны. Рэалізуючы сваю палітыку недапушчэння да няшчасцяў ПЗУ аплачвае, фінансуе пабудову сіласавых ям паводле найлепшых тэхнічных узораў. Аплачана пабудову каля трох тысяч сіласавых ям — вядома, найменш або і зусім не ў нашых ваколіцах, дзе аб чымсьці такім або хто чуў, або і не чуў. Чаму будуецца сіласавыя ямы на кошт ПЗУ? Таму, бо сілас гарантуе добрае ўтрыманне гаспадарскай жывёліны, што мае велізарнае значэнне ў змяншэнні прапажы яе.

ПЗУ фінансуе нават пабудову водаправодаў, артэзіянскіх калодзежаў, і таму падобнае.

Жменя гэтых фактаў паказвае на вельмі патрэбны і карысны бок дзейнасці ПЗУ, з назваю якога мы прызвычаіліся спалучаць няшчасце і пару тысяч зл. атрыманых за няшчасце, і непамерных да няшчасця. Варта аб гэтым заўсёды памятаць, разважаючы магчымасці супрацоўніцтва са страхавальнай установай ПЗУ. (ся)

## МАТЭМАТЫЧНЫ ТУРНІР

Нядаўна ў памяшканні беларускага ліцэя ў Бельску адбываўся акружны матэматычны турнір першых класаў агульнаадукацыйных ліцэяў Бельскага, Гайнаўскага і Сямяціцкага паветаў. Да турніру прыступілі вучні сямі ліцэяў. Заданні прадстаўлены вучням былі цяжкія і патрабавалі ад іх добрых і ўсебаковых матэматычных ведаў.

Першае груповае месца заваявалі вучні **Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы,** якіх падрыхтавала **Параскева Рушук,** настаўніца гэтага ж ліцэя. Другое месца занялі вучні беларускага ліцэя ў Бельску. Індывідуальна першае месца атрымала **Крыся Лушчынская** з беларускага ліцэя ў Бельску, другое — **Лех Пятроўскі** з ліцэя ў Сямяцічах, а трэцяе месца выпала **Ані Файкоўскай** з ліцэя імя Т. Касцюшкі ў Бельску. Чацвёртае і пятае месца адпаведна заваявалі **Анатоль Кердэлевіч і Юрка Харкевіч** з беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім.

На ваяводскі турнір закваліфікавалася: 3 асобы, на 6 прыступіўшых да раённага турніру з агульнаадукацыйнага ліцэя з бел. мовай у Бельску; 2 асобы, на 4 прыступіўшых з беларускага ліцэя ў Гайнаўцы; 2 асобы з ліцэя імя Т. Касцюшкі ў Бельску і 1 асоба з ліцэя ў Сямяцічах. (АК)

## САРДЭЧНА ВІНШУЕМ

Міністр Вышэйшай адукацыі і асветы навуковаму працаўніку Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі дру Васілю Белаказовічу прысвоіў навуковую ступень дацэнта. Дацэнт др В. Белаказовіч з'яўляецца актыўным членам Варшаўскага аддзела БГКТ. Сардэчна віншуем! В. Ш.

## УЗНАГАРОДА ЖУРНАЛІСТУ «НІВЫ»

У рамках агульнапольскага конкурсу «Маладыя патрыёты» журналісту «Нівы» **Аляксею Карпюку** прызнана ўзнагароду за публіцыстычную творчасць.

У гэтым конкурсе ўзнагароджана пятнаццаць журналістаў друку, радыёвяшчання і тэлебачання Польшчы. Заданнем конкурсу, арганізаванага цэнтральнымі ўладамі ЗГП ЗБоВіД-у і СДП было вылучэнне найлепшых прац, у якіх паказана моладзі слаўныя традыцыі барацьбы народа, фармаванне патрыятычных адносін да зямлі роднай, асяроддзя свайго. (ся)




**М. В. Бельскі павет.** «Хачу працаваць у тэкстыльным промысле ў Беластоку. Дзе і да каго звярнуцца ў гэтай справе? Ці ёсць якія-небудзь курсы, ці школы, якія рыхтуюць да гэтай працы? Хто запісвае ў такую школу?»

**Адказ:** Да працы ў тэкстыльным промысле рыхтуюць прафесіянальныя школы і тэкстыльныя тэхнікумы. Маючы 23 гады, як пішаце, прафесію тэкстыльшчыка можна атрымаць толькі ў прыфабрычных школах для працуючых. Паколькі мала аб сабе пішаце, магу вас паінфармаваць агульна, што індывідуальна аб месцах працы інфармуюць паасобныя фабрыкі тэкстыльнага промыслу ў Беластоку і Замброве. (Białostocka Fabryka Pluszu im. F. Kona ul. Nowotki 15: Białostockie Zakłady Przemysłu Bawełnianego Fasty; Białostockie Zakłady Przemysłu Wełnianego im. Dyr. Sierżana, ul. Augustowska 6; Zambrowskie Zakłady Przemysłu Bawełnianego ul. Wojska Polskiego 16.

Трэба на пісьме або асабіста звярнуцца да вышэй указаных фабрык. Іменна пры некаторых з іх існуюць прыфабрычныя школы.



# МУЗЫКАТЭРАПІЯ

У даўнія часы людзі верылі ў магічныя сілы музыкі. У егіпецкіх папірусах нават запісана, якую музыку трэба прымяняць у выпадку бясплоднасці жанчыны. У старажытнай Грэцыі таксама было вядома лячэнне музыкай. Піфагор прыпісваў музыку як універсальны сродак на гігіену цела і духу. У XVII і асабліва ў XVIII стагоддзях музыкальнае лячэнне ўвайшло ў моду.

Складалі музыку ад мігрэны, ад бяссонніцы, ад колікаў. Кампазітар Марэн Марэ на пачатку XVIII стагоддзя напісаў капітальную працу аб медыцынска-музыкальных доследах, а таксама санату, якая прызначалася выключна для суправаджэння аперацыі выдалення мачавых каменняў.

Ёсць і ў наш час прыхільнікі лячэння пры дапамозе музыкі, музыкатэрапіі. Сёння музыкатэрапія мае шырокае прымяненне: у артапедычнай фізкультуры нельга абысціся без выразных танцавальных рытмаў, у хірургіі і стаматалогіі меладычныя п'есы паказалі сябе як нядрэнны абязбольваючы сродак, у дзіцячай клініцы з дапамогай музыкі выпраўляюцца дэфекты слыху, мовы.

Але галоўнай галіной у выкарыстанні музыкатэрапіі застаецца псіхіятрыя. Пошукаў тут было нямала. Бразілійскі псіхіятр у сваёй працы выкарыстоўвае рытмы твістаў і ча-ча-ча. Псіхатэрапеўты ГДР падбіраюць спецыяльную музыку для суправаджэння сеансаў самаўнушэння. Французскія псіхіятры ўключаюць запісы музыкі ў псіхатэрапеўтычныя мантажы, дзе слоўныя ўнушэнні чаргуюцца з музыкай. У ЗША створана нацыянальная асацыяцыя музыкатэрапеўтаў. Там складаюцца лячэбныя каталогі музыкі. Вось, прыкладна, некалькі пазіцый з каталога:

на змяншэнне раздражнення: Бах — Кантата № 2, Бетховен — Месячная саната, Пракоф'еў — саната ў «рэ»;

супраць непакою: Шапэн, мазуркі і прэлюдыі;

ад галаўнога болю: Бетховен — «Фідэліо», Моцарт — «Дон Жуан», Ліст — Вянгерская рапсодыя № 1, Хачатур'ян — сюіта «Маскарад».

Аднак большасць лекараў і музыкавсдаў скептычна адносяцца да такіх каталогаў.

Вядома, сустракаюцца выпадкі, калі музыка — гэта найлепшы сродак. Некаторыя хворыя нават ведаюць, якая музыка ім памагае. Аднак прыпісаць музыку на хваробу як лякарства нельга. Уздзеянне той самай музыкі ў розных людзей выклікае розныя пачуцці. Часам нават хворы імкнецца да музыкі, а потым заўважае, што не можа яе ўспрыймаць. У некаторых людзей музыка насоўвае нейкія ўспаміны і невядома, ці тыя ўспаміны будуць прыемныя для іх у час хваробы.

Вядома толькі, што ў цяжкіх выпадках душэўнага разладу музыка не павінна процістаўляцца псіхічнаму настрою. Смутнаму і змучанаму здароваму чалавеку вясёлая музыка дадасць бадзёрасці, а дэпрэсіўна хворага засмуціць яшчэ больш.

Самая галоўная рэч — пазнаць музычны рэжым асобы. Гэта патрабуе медыка-псіхалагічных і музычных ведаў і, галоўнае, індывідуальнага падыходу. Савецкі псіхатэрапеўт С. Конструм (памёр у 1950 годзе) іграў сваім хворым на піяніна ў тых рэдкіх выпадках, калі асабовасць і стан хворага маглі ўспрымаць такое лячэнне. Зразумела, што такі метад патрабуе ад лекара і хворага адпаведных музычных здольнасцей. Сэнс яго — музыкальная імправізацыя, падпарадкаваная лячэнню і звязаная з асаблівым працэсам «учування». Працэс гэты, гаворачы вельмі спрошчана, заключаецца ў максімальным духоўным збліжэнні псіхікі лекара з псіхікай слухача (пацыента), але пры захаванні лекарам кантролю над сітуацыяй. Імправізацыя пачынаецца з музычнага вобразу псіхічнага стану, у якім знаходзіцца хворы і вядзе за сабой слухача ў адпаведным напрамку.

У звычайным жа сэнсе музыка — гэта сродак псіхатэрапіі здаровых людзей. (я)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЛАВІЦЬ ТУМАН СЕТКАЙ

Так, прапануецца лавіць менавіта туман і менавіта сеткай. Праўда, тут трэба зрабіць адно ўдакладненне. Калі, скажам, рыбу можна лавіць ільнянымі ці там капронавымі цянётамі, то для лоўлі туману прыгодна толькі густая і тонкая нейлонавая сетка. Справа ў тым, што калі такая сетка рухаецца праз туман, найдрабнейшыя яго кропелькі асядаюць, кандэнсуюцца на нітках і сцякаюць уніз. Туман знікае.

Гэта адкрыццё спецыялісты спрабуюць выкарыстаць. для барацьбы з туманам на аўтамабільных дарогах з інтэнсіўным рухам. Вялікую нейлонавую сетку ўстанаўліваюць, як парус, на спецыяльным аўтамабілі і ён імчыць па ахутанай туманам дарозе, а ззаду яго застаецца празрысты, чысты ад туману калідор. Дзесяткі і сотні машын могуць потым ісці ва ўмовах добрай бачнасці.

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Лёгкая сукенка з ільняной тканіны.

Фота В. Казлова

## НАВІНЫ ЭКРАНА

«ЦІШЫНЯ І КРЫК». «Фільм вянгерскі. Прадстаўляе 1919 год. Пала Савецкая Вянгерская Рэспубліка. Настаў час тэрору і страху. Войска разам з жандармерыяй распраўляецца з атрадамі Чырвонай Арміі, забівае рабочых і сялян.

У вёсцы на ўскраіне лесу хаваецца рэвалюцыянер Іштван. Яго перажыванні — тэма фільма. Канфлікт драматычны, трымае ў напружанні. Цікавыя часы, цікавыя людзі.

«ПАДАРОЖЖА МОЎЧКІ». Французскі. Фільм гэты высока ацаніў радыкальны французскі друк, між іншым камуністычны, як дасканалы фільм грамадска-палітычны. Самі творцы фільму казалі: «рашылі мы зрабіць фільм палітычны, аб нелегальнай эміграцыі партугальскіх рабочых у Францыю», якая ў масавым маштабе выступіла ў канцы мінулага стагоддзя. Ці партугальскія рабочыя ў пошуках шчасця, прайшоўшы небяспечную іспанскую граніцу, знаходзяць у Францыі сваю «абяцаную зямлю»? Адказвае на гэтае пытанне фільм.

«КОЖНАМУ СВАЁ». Італьянскі. Гэта фільм, дарэчы не першы і пэўна не апошні, пра праслаўленую сіцілійскую мафію (арганізацыю напалову палітычную напалову разбойніцкую). Ані разу не ўспамінаецца тут канкрэтна мафія. Але вядома пра каго рэч. Аўтар фільма паказвае, як моцнай з'яўляецца гэтая арганізацыя. Як усё трымае ў сваіх руках. Адзінкі, якія прабуюць з ёю змагацца, гінуць таямнічым чынам, і ніхто не адважыцца дашуквацца прычын іх смерці, каб не згінуць самому. Яе галоўным правадыром у мястэчку з'яўляецца сам... адвакат. Чаго яшчэ чакаць? (вл)

БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## Пячонка, фаршыраваная па - гомельску

Пячонку (лепш ялавічную) нарэжце пластамі таўшчынёй 1,5 см. Зверху пакладзіце адбіты пласт сала таўшчынёй прыкладна 0,5 см., на яго — слой пасераванай рэпчатай цыбулі, пасыпце соллю і перцам. Скруціце рулетам, перавяжыце шпагатам і на 1—2 мін. апусціце ў кіпячы алей. Калі рулет зарумяніцца, выньце яго і патушыце ў невялікай колькасці булёну з цыбуляй, пятрушкай, морквай і сельдэрэем.

Гатовы рулет астудзіце, здыміце шпагат і нарэжце тонкімі колцамі.

На 150 г пячонкі 50 г сала, 4 цыбуліны, 2 ст. лыжкі алею, 1 ст. лыжка пшанічнай мукі.

Чэрць стагоддзя назад

# НЕПАТРЭБНЫ



# БОЙ

У тым часе, калі я перажываў трагічную смерць старшага лейтэнанта Нячаева і слаў сувязных у атрад Юрчука ў Белавежскую пушчу, а той, у сваю чаргу, перадаваў мае данясенні ў Ліпічанскую пушчу, там штаб брыгады «У імя Радзімы» рыхтаваўся ў далёкую небяспечную дарогу ў наш раён дзеяння.

12 сакавіка 1944 г. Янкоўскі на чале 28-асабовай групы выйшаў з Гута-Міхалінскай базы і 20 сакавіка быў ужо ў атрадзе Юшчука. Гэты атрад быў папоўнены людзьмі і атрымаў імя Дзяржынскага. 1 красавіка Янкоўскі з групай прыйшлі ў вёску Дубна. Там сустрэў я яго ў хаце Пётра Яшука. Афіцыйны прыём наладзіў я на хутары паміж Дубнам і Нурцом у Алеся Мусько. Цэлы тыдзень жылі мы з Янкоўскім на розных канспірацыйных кватэрах: у Гуральчука ў Дубне, у Хількевіча ў Шашылах, у Баранскіх у Снежках і г.д. Вёў я з ім шматгадзінныя размовы, знаёміў са становішчам на гэтай тэрыторыі. Ён расказваў аб жыцці сваёй брыгады.

Калі я выказаў здзіўленне, чаму не прыйшоў мой камандзір капітан Хмялеўцаў, Янкоўскі сказаў, што Хмялеўцаў пастаянна знаходзіцца пры штабе брыгады і, як дагэтуль, не выказвае намеру перайсці ў Бельскі павет. Янкоўскі паведаміў таксама, што Хмялеўцаву ўдалося навязаць сувязь з былым намеснікам дырэктара Педагагічнага інстытута ў Беластоку тав. Зазекам і за яго пасрэдніцтвам з дзейнічаючай у Беластоку антыфашысцкай групай. Расказваў, што адзін вельмі здольны і смелы член гэтай групы працуе ў нямецкай паліцыі, з'яўляецца актыўным членам Беларускага камітэта, якім кіруе здраднік Ільяшэвіч.

Праз Паўліка была ў мяне сувязь з Валяй, якая працавала ў гэтым жа камітэце, ведаў я аб замаху на Ільяшэвіча. У сядзібу камітэта на Кіеўскай вуліцы, у пакой, у якім быў Ільяшэвіч, невядомыя антыфашысты ўкінулі супрацьтанкавую гранату. Замах не ўдаўся. Кінутая граната, відаць, трапіла ў аконную раму і ўзарвалася з вонку, вырываючы толькі акно з рамамі. Выбуховая хваля кінула Ільяшэвіча ў кут пакоя і ўдарыла ім у стол. Хоць аглушаны і лёгка кантужаны аднак застаўся жывы.

Я быў абураны на свайго камандзіра, што не даў мне кантакту на гэту групу. Нашыя людзі хадзілі побач, але мы не маглі каардынаваць нашых намаганняў.

З 6 на 7 красавіка пайшлі мы з Янкоўскім у зямлянку. Перад тым дагаварыліся, што Янкоўскі ўключыць фармальна атрад Пархоменкі ў склад брыгады «У імя Радзімы».

Сёмага красавіка каля гадзіны дзявятай раніцы назіральнік даў сігнал, што дарогай з Пятроўшчыны ў Снежкі едуць чатыры фурманкі немцаў. Калі фурманкі схаваліся за Снежкамі, палічылі мы, што гэта нейкая прыпадковая група і ніякая небяспека нам не пагражае.

Недзе каля гадзіны чатырнаццатай вартаўнік паведаміў, што фурманкі вяртаюцца, але на іх толькі па адным або па двух немцаў. Неўзабаве ўдарыла чарга з аўтамата. Вартаўнік ускочыў у зямлянку і крыкнуў:

— Немцы! Мы акружаны!

У зямлянцы наступіла паніка. Партызаны хапалі зброю, штурхаліся.

— Спакойна! — крыкнуў я. — Слухаць каманду! Застралю кожнага панікёра! — і я выняў пісталет. Супакоіліся.

— Падзяліцца на дзве групы. Адна ў адзін лаз, другая ў другі. Наперад! Кінуць гранаты, калі ўзарвуцца — наверх, займаць абарону!

Партызаны счэзлі ў калідорах лазаў.

На паверхні грымнулі гранаты. Згары нёсся шум, лаянка.

Калі ўрэшце выбраўся я на верх, убачыў побач лаза труп у нямецкім мундзіры. Партызаны беглі да фурманак.

— Стой! Стой! — крычаў я з усіх сіл.

— Вярніся! — крычаў Смірноў.

Але ніхто ўжо не слухаў каманды. Беглі, бы шалёныя, наперад. Да немцаў было нейкіх дзвесце пяцьдзесят — трыста метраў. Немцы скакалі з фурманак у прыдарожныя равы і адстрэльваліся. Убачыўшы, што партызаны акружаюць іх, кінуліся наўцёкі. З боку вёскі полем нёсся вярхом нямецкі афіцэр.

У выніку гэтай непатрэбнай атакі страцілі мы двух вопытных і інтэлігентных партызан. Загінулі Міша з Масквы і Сяроржа з Ленінграда. Прозвішчаў не памятаю.

Зямлянка была правалена. А падзея была зусім выпадковая. І біліся мы не з немцамі. У той час у Кляшчэлях стаяў атрад галандцаў. Каля дзевяноста асоб. У той дзень група дваццаці чатырох салдат на чале з афіцэрам ехала ў маёнтак Быстрэ па бульбу і буракі. А паколькі ў маёнтку не засталі ўпраўляючага немца, вярталіся з пустымі вазамі. Афіцэр спыніўся ў Снежках у солтыса. Солтыс супрацоўнічаў з намі і меў загад спаіць кожнага немца, які з'явіцца ў вёсцы. Навучыў нас гэтага прыёму Міхась Алексяюк з Кабусаў, аб чым я ўжо ўспамінаў. Солтыс не патрапіў адрозніць галандца ад немца, дык

# ТРЫБУНА чытачоў

### НОВЫ АБ'ЕКТ КУЛЬТУРЫ

Нядаўна ў Бельску Падляшскім адбылося ўрачыстае адкрыццё новапабудаванага памяшкання на гарадскую і павятовую бібліятэку. Бібліятэкі маюць чытальныя залы для дзяцей і дарослых. Прыгожае і новае абсталяванне бібліятэкі.

**В. Фалькоўскі**

### ЗАСЛУЖАНЫ АРМОВЕЦ



Іван Дамброўскі з Храбалоў (Бельскі павет) быў прыняты ў рады ОРМО зараз пасля вызвалення нашых зямель ад нямецкіх акупантаў. Нядаўна на нарадзе армоўцаў Іван Дамброўскі атрымаў адзнаку «20 год у службе народа».

Тэкст і фота
**Павел Зінкевіч**

### СХОД ГУРТКА

8 красавіка ў Крывяцічах адбыўся справаздачна-выбарчы сход гуртка БГКТ. Справаздачу склаў старшыня гуртка Ваня Кірызюк. Ён расказаў аб працы гуртка, аб тым, як моладзь праводзіць вольны свой час у святліцы, а таксама як рэалізавала грамадскі дарожны чын. Дакладчык аднак крытычна ацаніў культурную дзейнасць БГКТ, ЛьЗС і ЗМВ, таму што ўспомненыя арганізацыі замала звярталі ўвагі на гэтую справу.

Потым з прамоваю выступіў прадстаўнік Бельскага аддзела БГКТ Іван Шурбак. Звярнуўся ён да моладзі і старэйшых, каб актыўней развівалі культурную дзейнасць у Крывяцічах.

У сходзе прымалі ўдзел члены ПАРП і члены сельскагаспадарчага гуртка. Гурток БГКТ пастанавіў арганізаваць аматарскі калектыў, а таксама павысіць лік членаў беларускай арганізацыі.

Сход закончыўся выбарамі новага праўлення. Прысутныя на старшыню выбралі ізноў Ваню Кірызюка, на саккратара — Ніну Скарэўскую і на скарбніка — Анатоля Кліна.

К. В.
Крывяцічы

---

фундаваў і гэтаму. Салдаты знуджаныя чаканнем афіцэра, разышліся па полі і наладзілі паляванне на зайцаў. Фурманкі памалу ехалі дарогай. Засталіся ў іх салдаты, якія не хацелі лазіць па полі. Адзін з галандцаў, ідучы ўздоўж багна, дайшоў да ўзгорка, на якім была наша зямлянка. Такім чынам знайшоўся ён за плячыма вартаўніка-назіральніка, які ў той час усю ўвагу накіраваў на фурманкі. Над зямлянкай, пры самай зямлі, была расцягнута антэна. Салдат, відаць, зачапіўся за яе і пайшоў уздоўж антэны. Яна яго прывяла да лаза пад карчом. Зацікавіўся. Знайшоў накрыўку, паднёс яе, убачыў усходкі: вялі пад зямлю. Не скеміўшы, відаць, куды трапіў, пачаў грукаць ботам у рамку лаза. Назіральнік, які стаяў пры другім запасным выхадзе, у супрацьлеглым баку зямлянкі, схаваны пад кошыкам, які нагадваў мурашнік, пачуў гэты грукат, агледзеўся і праз шчыліну ў мурашніку ўбачыў немца. Доўга не думаючы, пусціў чаргу. Салдат зваліўся на зямлю. Вартаўнік падняў трывогу.

Пасля бою, баючыся аблавы, пакінулі мы сваё апошняе сховішча і накіраваліся ў бранскія лясы ў атрад Жукава. 13 красавіка ў раёне вёскі Лэмпіцэ сустрэліся з жукаўцамі. У той жа дзень атрад Жукава быў уключаны ў брыгаду Янкоўскага. З гэтага дня аж да вызвалення брыгада налічвала пяць атрадаў: Кутузава, Хмяльніцкага, Дзяржынскага, Пархоменкі і Жукава.

**Ян Анацік**

### НЯМА ПЛЯЦОЎКІ

Вёска Дашы налічвае больш 130 гаспадароў. Моладзі вельмі многа. Яна жадае свой вольны час ад працы правесці весела. Моладзь хоча займацца спортам. Яна ўжо некалькі гадоў стараецца, каб атрымаць пляц да спартыўных гульняў. У справе выдзялення пляца на спартыўную пляцоўку моладзь звярталася не толькі да грамадскіх улад, але нават да павятовых. Праўда, паабяцалі памагчы, але не памагаюць. Як заявіў сакратар ПОП з Дашоў, Міхась Кісялеўскі, гэтыя справы былі грунтоўна абмеркаваны на пасяджэнні партыйнай арганізацыі, члены якой падтрымалі моладзь і таксама звярнуліся да ўлад аб выдзяленне пляца. Пакуль што адказу ад павятовых і грамадскіх улад няма. А шкада, час ідзе. Ужо можна было б парадкаваць пляц. Сельскагаспадарчы гурток запэўніў, што дасць нават трактары да будовы спартыўнай пляцоўкі.

**Міша Тэлешэўскі**
Рэпіска

### АЎТОБУСАМ У ГОРАД

Ад пачатку народнай улады многа змянілася ў горадзе Беластоку і ў паветах нашага ваяводства, а таксама ў найбольш адлеглых ад горада вёсках. Для прыкладу можна прывесці невялікую вёску Агароднікі, што ляжыць у ГРН Трасцянка, Гайнаўскага павета. Да вёскі Агароднікі прыязджае аўтобус ПКС з Гайнаўкі ўвечары, а рана ад'язджае ў Гайнаўку. Усе з гэтага вельмі задаволены. Людзі былі б яшчэ больш задаволены, каб сюды прыязджалі два аўтобусы: адзін з Гайнаўкі, а другі з Беластока, і рана ад'язджалі назад.

М. Л.
Белкі

### ПАРТЫЙНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ

Партыйная арганізацыя грамады Стары Корнін (Гайнаўскі павет) налічвае 60 членаў. Асабліва малая партыйная арганізацыя вёсак Старога Беразова і Ягаднік.

На справаздачным сходзе многа гаварылася аб разбудове партыйных радоў, аб ролі членаў партыі ў грамадскім жыцці. З ініцыятывы партыйных арганізацый у грамадзе Стары Корнін было шмат арганізавана дарожных грамадскіх чынаў. Выкананыя працы акрэсліваюцца сумай 800 тыс. зл.

На гэтым жа сходзе, між іншым, была прынята пастанова адносна пабудовы спартыўнай пляцоўкі ў Старым Корніне.

**Мікалай Пракапюк**
Стары Корнін




**Дарагое Сэрцайка!**

Многія пішуць да цябе аб сваіх клопатах, я таксама надумаўся напісаць аб сваім.

Мне ўжо мінула 19 гадоў і варта было б навучыцца танцаваць, аднак да гэтых пор яшчэ не ўмею. Мае сябры даўно ўжо ездзяць на забавы, просяць мяне, але я не хацеу з імі ездзіць. Сяджу ў хаце нават тады, калі ў сваёй вёсцы забава. Зараз ужо пачнуцца забавы, вяселлі, таму я хацеў бы навучыцца танцаваць, але не ведаю, ці ў маіх гадах можна навучыцца. А калі яшчэ не позна, дык не ведаю, як падысці да дзяўчыны і як папрасіць яе танцаваць. Парай Сэрцайка. Буду табе вельмі ўдзячны.

**Коля**
з Бельскага павета

Дрэнна, калі дзяўчына ці хлапец не ўмее танцаваць, бо танец вельмі прыемная забава і добрая форма навязання кантактаў паміж дзяўчатамі і хлопцамі. Пішаш, што табе трэба вучыцца танцаваць і не ведаеш, ці не позна. Мне здаецца, што ты не маеш толькі смеласці, так вельмі часта бывае. І каб пачаць танцаваць, мусіш аднак адважыцца, падыйсці да дзяўчыны і, лёгка схіліўшы галаву, папрасіць ветліва да танца. Я раіла б на першыя пачаткі прасіць танцаваць добра знаёмыя дзяўчаты, тады і хваляванне пазбудзешся і дзяўчына паправіць твой крок, як трэба будзе.

Жадаю поспехаў

### У АРЭШКАВЕ

У вёсцы Арэшкава, Гайнаўскі павет, сельскагаспадарчы гурток мае 6 трактараў, малацільныя агрэгаты, сеўнікі, бульбакапалкі і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Прэзасам гуртка з'яўляецца (ён аднначасова і старшыня арэшкаўскага ГРН) Юры Назарук. Сельгасгурток у сваёй працы настаўлены на развіццё збожжавай прадукцыі. У гуртку добра стаіць справа кантрактацыі збожжавых культур і аднаўлення бульбы. У гэтым годзе будзе праведзена вапнаванне глеб у такіх вёсках як: Арэшкава, Пасечнікі, Вітава і Істок. Замала тут сяляне дбаюць аб закладанне сіласаў. Каб лепш удаваліся кішонкі, аграном Ніна Зінчук весці будзе два доследныя палеткі, а потым пакажа, як трэба рабіць сілас, як кісіць паплёны. Усіх палеткаў будзе 15, м. ін. два з бульбай, два з ячменем і г.д. Таму такую ўвагу звернута на кішонкі, бо на план 500 тон кішонак выканана 42 тоны.

* ✲ *

У Арэшкаве актыўна працуе гурток вясковых гаспадынь, якім кіруе Надзя Грушэўская. Жанчыны арганізавалі розныя курсы: кулінарны, крою і шыцця.

Апошнім часам заклалі яны пяць парнікавых вокнаў, дзе пасаджана памідоры, капусту, цыбулю і поры. Такім чынам хутчэй будуць мець рассаду капусты, памідораў або зялёную цыбулю.

Жанчыны дбаюць аб рацыянальнае харчаванне сваіх сем'яў і аб тое, каб дзеці мелі агародніну ўжо ранняй вясною, калі адчуваецца найбольш недахоп вітамінаў.

**Янка Цялушэцкі**

### ПЕРАМОЖЦЫ




**Мы ўжо пісалі аб турніры ведаў аб Польшчы і сучасным свеце. Сёння публікуем здымку пераможцаў з Бельскага беларускага ліцэя, якія заквеліфікаваліся як найлепшыя да вуснага фіналу.**

**В. Фалькоўскі**

### МАСТАКІ ВЫСОКАГА ЎЗРОЎНЮ

Гады два таму назад у вёсцы Бацюты, Лапскага павета, мне прышлося сустрэцца з выступленнем беларускай эстрады «Лявоніха». Захапляліся мы тады прыгожымі песнямі ды танцамі, смяяліся да слёз з гумару і, зразумела, білі апладысменты. Мне часта даводзілася чытаць у «Ніве» аб выступленнях беларускай эстрады, нават прыходзілася дыскутаваць аб узроўні гэтага калектыву.

І вось, 18 студзеня 1969 года я даведаўся, што ў Бацюты прыязджае беларуская эстрада «Лявоніха», з хваляваннем прыехаў яе паслухаць.

На праграму склаліся беларускія і польскія песні, беларуска-польска-украінскія танцы, маналогі, гумар, сатыра. Выканаўцы эстрады «Лявоніха», хоць іх так мала, стварылі такія ўмовы, што гэтых песень хацелася слухаць без канца, ды ісці за імі на край. І каб сказаць, што выканаўцы спявалі вельмі добра, то ўсё роўна гэта слова не адлюструе таго настрою, які адчувалася, не пакажа той прыгажосці голасу, позы, усмешкі, жэстаў. Гэта быў спеў высокага ўзроўню.

**Уладзімір Дваракоўскі**

### СВЯТЛІЦА Ў ШЭРНЯХ

Многа вёсак у Бельскім павеце наракае на тое, што няма ў вёсцы святліцы. Асабліва дрэнна для моладзі, якая не мае дзе сабрацца, паспяваць, патанцаваць і пачытаць цікавыя газеты або кніжкі. Аднак не ўсюды ўмеюць выкарыстоўваць святліцу.

Аднога разу прыпала мне ў Шэрнях правесці сход гуртка Саюза вясковай моладзі. Калі падыходзіў да святліцы, пачуў галасы з залы: «Бі асам...» «Я адну маю». Вайшоўшы ў будынак, убачыў я чатырох маладых людзей, якія гралі ў карты. На падлозе было столькі смецця, што аж страх. Сцены аблупленыя, брудныя. Стол і лаўкі, на якіх іграюць маладыя людзі ў карты, такі я ж самыя. У святліцы не знойдзеш ніводнай газеты ці кніжкі. Мяне гэта вельмі здзівіла, што да гэтай пары ніхто гэтай справай не пацікавіўся.

**Юрка Іванчук**

**Увага, сяляне!**

### АЗІМІНА ПАТРАБУЕ ЎГНАЕННЯ

Мінулая зіма была не надта спрыяльнай для жыта, пшаніцы і рапсу. Каб не патраціць на ўраджайнасці, **неабходна як найхутчэй азіміну падкарміць штучнымі ўгнаеннямі.** Дзеля гэтага можна выкарыстаць: вапнавую салітру (да 200 кг/га), амановую салітру (каля 100 кг/га), салетшак (каля 150 кг/га) і мочнік (каля 100 кг/га). Там, дзе рапс прапаў зусім, **найлепш пасеяць ярую пшаніцу або ячмень,** бо шкада добра ўгноенай зямлі пад авес. У жыта, калі яно рэдкае, добра было б падсеяць нейкія кармавыя расліны.

(вр)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Starsza pani bez godności" (franc.), 29—30. IV. „Agnieszka 46"" (polski), 1—2. V. „Weekend z dziewczyną" (polski), 3—4. V.

**Дубіны**
„Rondo" (jugosł.), „Trzy topole" (radz.), 3—4. V.

**Нараўка**
„Berlin" (radz.), „Romanca na trąbkę" (czeski), 30. IV. — 4. V.

**Нарва**
„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), „Za naszą i waszą wolność" (polski), 30. IV. — 4. V.

**Чыжы**
„Panowie z kompleksami" (włoski), „Paryż — Warszawa bez wizy" (polski), 30. IV. — 4. V.

**Дубічы Царкоўныя**
„Jutro Meksyk" (pol.), „Krew na śniegu" (jugosł.), 30. IV. — 4. V.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Niebo bez krat" (bułg.), „Miłosne kłopoty" (radz.), 30. IV. — 4. V.

**Орля**
„Jak się pozbyć Helenki" (czeski), „Miałem 19 lat" (NRD), 30. IV. — 4. V.

**Райск**
„Ubranie prawie nowe" (polski), „Wehikuł czasu" (USA), 30. IV. — 4. V.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Cierpkie wino" (radz.), „Wilcze echa" (polski), 29. IV. — 2. V.

**Міхалова**
„Mecz w piekle" (węgierski), 29. IV. — 30. IV. „Czarny mustang" (USA), 1—2. V. „Morderca na zawołanie" (NRD), 3—4. V.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Okno na lunapark" (włoski), 29—30. IV. „Cudowna łamigłówka" (czeski), 1—2. V. „Trema" (USA), 3—4. V.

**Шудзялава**
„Intrygantki" (czeski), „Tabliczka mnożenia" (polski), 30. IV. — 4. V.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Lęk" (czeski), 29—30. IV. „Dr Crippen" (angl.), 1—2. V. „Napad stulecia" (angl.), 3—4. V.

**Новы Двор**
„Zamach" (polski), „Zakazane piosenki" (polski), 3—4. V.

**Ліпск**
„Gdzie jest generał" (polski), „Czerwone berety" (polski), 3—4. V.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7028

